



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

20 сакавіка 2015 года №12 **(1038)**




**100-гадовы юбіляр не можа без працы**

Калі дачка пачала клапаціцца пра замену пашпарта, пашпартыстка з Крывічоў здзівілася. Такога выпадку ў іх яшчэ не было

старонка 20



**У ВНУ можна вучыцца па скарочаным тэрміне**

Глядзіце новыя спецыяльнасці, а таксама ВНУ, у якія навучэнцы могуць паступіць на скарочаны тэрмін навучання

старонка 5

**"За вяроўку ўхапіўся зубамі". Мядзельцы выратавалі рыбака** с. 2

**"Забудова" абвясціла аб банкруцтве. Прадпрыемства ўвайшло ў працэс санацыі** с. 3

**Асудзілі былога начальніка Смаргонскай ДАІ. Ён спрабаваў выгарадзіць сябра** с. 4



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Апошнія званкі празвіняць 30 мая. Выпускныя – у чэрвені

Плануецца, што 30 мая ва ўстановах адукацыі пройдуць апошнія званкі для вучняў 9-х і 11-х класаў. Выпускныя экзамены за 9-я і 11-я класы пройдуць ад 1 да 12 чэрвеня. Выпускныя вечары для вучняў 11-х (12-х) класаў рэкамендуюць правесці 11-12 чэрвеня. Цэнтралізаванае тэставанне пачнецца 14 чэрвеня. Пра гэта распавяла прэс-сакратар Міністэрства адукацыі **Юлія Ваніна**, паведамляе "Наша Ніва".

**Аддзел інфармацыі.**



# Пошукі зніклай дзяўчыны цягнуцца ўжо тыдзень

**МАЛАДЗЕЧНА. Вольга Юзапчук знікла ў мінулы чацвер, 12 сакавіка. Да сённяшняга дня яе месцазнаходжанне невядомае.**

У панядзелак валанцёры пошукава-выратавальнага атрада "Анёл" праз суполкі ў інтэрнэце абвясцілі, што ўсе тыя, хто хоча дапамагчы ў пошуку Вольгі, могуць прыйсці да гандлёвага цэнтра "Модуль".

А 16 гадзіне там сабралася каля 30 чалавек.

Каардынатар пошукаў **Цімафей Дуброўскі** раздзяліў усіх ахвотных дапамагчы на групы і накіраваў на пошукі дзяўчыны, раздаўшы кожнаму арыенціроўкі з прыкметамі зніклай Вольгі Юзапчук.

**УВАГА: ВЫШУК!**



Фота з суполкі vk.com.

Зніклая Вольга Юзапчук.

Пра 19-гадовую Вольгу Юзапчук вядома, што яна ў чацвер, у 6:20 раніцы, выйшла з дому ў Чысці, каб паехаць на вучобу ў Маладзечна. У гандлёва-эканамічным каледжы, дзе вучыцца Вольга, яна не з'явілася. Апошні раз яе бачылі ў чацвер каля 15:00 у гандлёвым цэнтры.

У арыенціроўцы паведамлялася, што Вользе патрабуецца пастаянны прыём лекаў.

Сярод людзей, што прыйшлі дапамагчы ў пошуках Вольгі, былі і яе сваякі, і сяброўкі-аднагрупніцы, і проста незнаёмыя людзі, што ўбачылі паведамленне ў інтэрнэце. Таксама далучылася група валанцёраў са Смаргоні.

Накіраваўшы групы на пошук па дварах, будоўлях, закінутых будынках, Цімафей Дуброўскі знайшоў час, каб адказаць на пытанне, з якімі цяжкасцямі падчас пошукаў сутыкаюцца валанцёры і добраахвотнікі.

– Асноўная цяжкасць у тым, што ў Беларусі да гэтага часу няма закона аб валанцёрах. Гэта для нас закінутыя пабудовы і будоўля – аб'екты, дзе можа знаходзіцца зніклы чалавек, а для ўласнікаў – гэта іх прыватная тэрыторыя. Таму, бывае, і ў міліцыю паведамляюць, што па іх участках нехта ходзіць. Але з міліцыяй мы знаходзім паразуменне. Узаемная падтрымка – гэта вельмі важна. Мы з РАУС узаемадзейнічаем, і гэта вялікая палёгка для нашай справы.

**– Вольгу прыйшло шукаць каля 30 чалавек, гэта шмат?**

– Я мяркую, што бліжэй да вечара гэта колькасць падвоіцца. Адзінае, што палохае, гэта тое, што Вользе патрабуецца прыём лекаў, і тое, што час працуе не на нас.

Цімафея здзіўляе, што ў Беларусі сярод добраахвотнікаў у асноўным моладзь і падлеткі.

– Я працаваў і ў Расіі. Там шукаць зніклых людзей дапамагаюць пераважна дарослыя мужчыны, у многіх з якіх ёсць ваенная ці міліцэйская падрыхтоўка. Такія людзі, вядома, і больш заўважаюць, і ведаюць, як разгаварыць магчымых сведкаў.

Яшчэ адна цяжкасць, з якой сутыкаюцца валанцёры, – гэта адсутнасць сярод іх псіхолагаў.

– Уявіце, што, напрыклад, нехта з групы знаходзіць асабістую рэч зніклага чалавека. Пра гэта даведаюцца і яго сваякі. Вядома, для іх гэта стрэс. А побач няма псіхолага, які б у гэты момант знайшоў патрэбныя словы.



Фота Наталлі ТУР.

Дапамагчы шукаць зніклую Вольгу Юзапчук сабралася каля 30 чалавек. Гэта і сваякі, і знаёмыя, і проста выпадковыя людзі, якія ўбачылі паведамленне ў інтэрнэце.

Але гэту праблему летам пошукава-выратавальны атрад плануе вырашыць тым, што яны запусцяць праграму " Суправаджэнне сваякоў асоб, якія зніклі без вестак". Падрабязней пра працу пошукава-выратавальнага атрада чытайце ў наступных нумарах "Рэгіянальнай газеты".

### "Такое ў маёй практыцы ўпершыню"

На момант здачы нумара ў друк Вольгу Юзапчук усё яшчэ не знайшлі.

За тры дні актыўных пошукаў удалося знайсці пяць сведкаў, якія ўказвалі на яе месцазнаходжанне. У сераду пошукі былі працягнутыя ў Чысці, Красным і на станцыі Уша.

– Такое ў маёй практыцы здараецца ўпершыню, – каментуе Цімафей Дуброўскі, – каб за тыдзень чалавек нідзе не паказаўся і пра яго ніхто нічога не ведаў. Як скрозь зямлю праваліліся! На дадзены момант магу сказаць толькі тое, што мы цяпер праглядаем камеры відэаназірання вакзалаў Мінска і Гродна.

**Наталля ТУР.**

● ДАПАМОГА

# "За вяроўку ўхапіўся зубамі"

## Мядзельцы пачулі крыкі аб дапамозе і выратавалі рыбака

**МЯДЗЕЛ. Мужчына прабыў у вадзе (па яго адчуваннях) каля паўгадзіны. І невядома, што было б, каб не падаспела дапамога.**

Адбылося гэта ўдзень 14 сакавіка на возеры Наўры ў Сваткаўскім сельсавеце. 49-гадовы мінчанін прыехаў сюды парыбачыць і праваліўся пад лёд.

Выратавалі яго два мядзельцы, якія прыехалі на выхадныя ў вёску Наўры.

### "Рыбак быў у метрах 30-40 ад берага"

**Мікалай Амельяновіч** пайшоў абразаць дрэвы ля дома. Праз моцны вецер данёсся нейкі крык. Паглядзеў у той бок: убачыў на возеры рыбацкую скрыню. А побач – чорную пляму. Зразумеў, што ў вадзе аказаўся чалавек.

Паклікаў **Уладзіміра Кавалёнка.** Паімчалі на машыне да возера. Не забыліся пра вяроўку: трэба ж падрыхтаванымі ехаць.

– Рыбак быў у метрах 30-40 ад берага. Лёд ужо слабы быў – на трасіне возера зусім яго сарвала, – кажа Уладзімір.

Абодва асцярожна, дзе паўзком, падабраліся бліжэй да рыбака. Мікалай кінуў яму вяроўку.

– Ветрам яе зносіла, з разу пятага дакінуў, – прыгадвае ён.

– Рыбак нават зубамі за вяроўку ўхапіўся, бо рукі ўжо звяло, – дадае Уладзімір. – Пакуль цягнулі, расказаў ён, што з паўгадзіны прабоўтаўся ў вадзе. Крычаў, а ніхто не чуў: на возеры нікога не было.

Рыбака выцягнулі на бераг, занеслі ў машыну, пераапранулі. Неўзабаве прыехала "хуткая дапамога", выратавальнікі. Мінчаніна шпіталізавалі з дыягназам "агульнае пераахаладжэнне арганізма".

### "Кожны б так рабіў"

**– Вам не страшна было лезці на лёд?** – пытаю ў мядзельцаў.

– Не вельмі. Мы ж удвух былі. Каб праваліўся, сусед бы ратаваў, – адказвае Мікалай.

У адказе на пытанне: "Ці лічыце свае паводзіны гераічнымі?", абодва былі аднай думкі: "Не. Кожны б так рабіў".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Мядзельцы Уладзімір Кавалёнак (злева) і Мікалай Амельяновіч без ваганняў кінуліся на дапамогу рыбаку.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Міхась Чарняўскі пра "Рэгіянальную газету"

**Што цікавіць у выданні і што не падабаецца, расказвае ветэран Вялікай Айчыннай вайны сталы чытач і аўтар "РГ" з к. п. Нарач (Купа) Міхась Чарняўскі:**

– "Рэгіянальная газета" месяц ці два выходзіла, як убачыў яе. Набыў, зацікавіла. І вось амаль дваццаць год выпісваю.

Неўзабаве пачаў дасылаць свае матэрыялы: "Нявыдуманыя гісторыі", паданні, артыкулы пра ветэранаў, нашы здраўніцы.

Мне ў газеце найбольш цікавыя гістарычныя матэрыялы: як з далёкага мінулага, так і пра Вялікую Айчынную вайну. Люблю пачытаць пра вяскоўцаў. Падабаюцца апытанні. Не люблю толькі крымінальную хроніку: не чытаю, дзе каго забілі, абакралі.

Матэрыяламі з "Рэгіянальнай" дзялюся з іншымі. Артыкул пра адкрыццё помніка Максіму Танку ў Мядзеле пераслаў у Сваткаўскую школу, дзе ёсць прысвечаны паэту музей. Раптам у іх гэтага матэрыялу няма?

Напярэдадні юбілею хачу пажадаць калектыву "Рэгіянальнай" даўгалецця, здароўя, шчасця, поспехаў у працы, аўтарытэту ў чытачоў і ўсяго найлепшага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СПАЖЫВЕЦ

# 1 ліпеня з вітрын беларускіх крамаў знікнуць цыгарэты

**У гандлёвых аб'ектах з 1 ліпеня 2015 года будзе забароненая выкладка ў вітрынах і на іншым гандлёвым абсталяванні тытунёвых вырабаў (іх узораў).**

Аб гэтым паведаміла намеснік міністра гандлю **Ірына Наркевіч** на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню спажыўца, які адзначаўся ў Беларусі 15 сакавіка.

– Інфармацыю аб тытунёвых вырабах у гандлёвых аб'ектах і аб'ектах грамадскага харчавання можна будзе размяшчаць толькі ў выглядзе пераліку тытунёвых вырабаў з пазначэннем іх назвы і цаны. Гэта значыць, мы клапоцімся аб здароўі нашых людзей, але пры гэтым не абмяжоўваем правы курца – калі ён вырашыў курыць, ён мае на гэта права, – адзначыла Ірына Наркевіч.

Таксама, паводле яе слоў, будзе забароненая вытворчасць і абарот некурыльных тытунёвых вырабаў, прызначаных для смактання, выраблёных з тытуню і нетытунёвай сыравіны. Акрамя таго, пад забарону трапіць вытворчасць і продаж тавараў, што імітуюць знешні выгляд або маюць у сваіх найменнях назвы тытунёвых вырабаў.

Згодна з законам "Аб рэкламе", у Беларусі цалкам забароненая рэклама тытунёвых вырабаў, вызначаныя месцы, дзе нельга рэкламаваць алкагольныя і слабаалкагольныя напоі, піва, а таксама ўведзеныя абмежаванні да зместу дазволенай рэкламы такой прадукцыі.

Намеснік міністра канстатавала: меры, што прымаюцца па барацьбе з тытунекурэннем і алкагалізмам, даюць станоўчы эфект. У 2014 годзе продаж тытунёвых вырабаў у Беларусі знізіўся на 9,4% да ўзроўню мінулага года, алкагольных напояў – на 7%. Пры гэтым беларускія спажыўцы робяць выбар на карысць натуральнага алкаголю – напрыклад, продаж вінаградных він павялічыўся на 3,4%, а гарэлкі, лікёраў і іншых спіртных напояў было рэалізавана на 10% менш.

**Аддзел інфармацыі.**

● АДУКАЦЫЯ

## У Мядзеле вучні выбіралі прафесію

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 12 сакавіка прайшоў дзень прафарыентацыі "Фестываль прафесій".**

Прынялі ў ім удзел больш за дзвесце старшакласнікаў з Мядзельскага раёна.

Праходзіла мерапрыемства ў дзвюх установах адукацыі.

У гімназію-інтэрнат прыехалі прадстаўнікі 11 вышэйшых навучальных устаноў: з медыцынскага, педагагічнага, лінгвістычнага, эканамічнага і іншых універсітэтаў. Працу з вучнямі наладзілі ў розных секцыях.

У Мядзельскім садзешколе вучні сустракаліся з прадстаўнікамі сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў. У тым ліку старшакласнікі атрымалі інфармацыю пра каледжы з Маладзечна і Вілейкі.

Навучэнцы Вілейскага дзяржаўнага каледжа прадставілі дэфіле. Арыгінальныя прычоскі і яркія вобразы зацікавілі ўдзельнікаў сустрэчы: было нямала ахвотных сфатаграфавацца з гасцямі з Вілейкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● НАВІНЫ

### Свет раслін лепш ведаюць у гімназіі №1

**ВІЛЕЙКА.** У раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 14 сакавіка адбыўся інтэлектуальны турнір "Савёнак". Тэма яго – "У свеце раслін", паведаміў культарганізатар установы **Сяргей Рыжэвіч.**

У турніры ўдзельнічалі сем камандаў вучняў пятых класаў з устаноў адукацыі Вілейшчыны. Ён складаўся з трох тураў: "Што?Дзе?Калі?", "Эрудыт-лато" і "Свая гульня".

Перамагла каманда "Ніка" вілейскай гімназіі №1 "Логас" (трэнер – **Надзея Чолна**).

**Аддзел інфармацыі.**

### Памёр творца Аркадзь Нафрановіч

**МЯДЗЕЛ.** 15 сакавіка памёр паэт і празаік **Аркадзь Нафрановіч**. Было яму 78 год.

Нарадзіўся Аркадзь Нафрановіч ў вёсцы Юшкавічы на Мядзельшчыне. Тут закончыў сямігодку, сярэднюю адукацыю атрымаў у Мядзеле.

Працаваў усё жыццё настаўнікам на Пастаўшчыне, жыў у вёсцы Камаі.

Шмат увагі ў сваёй творчасці удзяляў Мядзельшчыне. Пра гэта сведчаць назвы яго кніг паэзіі "Мядзельскі мерыдыян", "Святло Нарачы".

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРЫРОДА

## Новы заказнік будзе на Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА. Восем новых заказнікаў мясцовага значэння з'явяцца ў Мінскай вобласці ў 2015 годзе.**

Адзін з іх – у нашым рэгіёне. Гэта заказнік "Гасціслава" ў Вілейскім раёне.

На Міншчыне з адкрыццём новых заказнікаў плошча асабліва ахоўных прыродных тэрыторый мясцовага значэння складзе амаль 70 тысяч гектараў.

**Паводле БелТА.**



Фота pikabu.ru

Холдынг "Забудова" паспрабуе пачаць сваю дзейнасць з чыстага акруша і перабудаваць працу.

● ВЫТВОРЧАСЦЬ

# "Забудова" абвясціла аб банкруцтве

## Прадпрыемства ўвайшло ў працэс санацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Заяву аб эканамічнай нездольнасці прадпрыемства дасылае крэдыторам кампаніі.**

На сходзе акцыянераў 9 сакавіка прынялі рашэнне аб падачы ў суд заявы аб банкруцтве ААТ "Кіруючая кампанія холдынгу "Забудова".

Таварыства імкнецца вярнуць плацежаздольнасць, для гэтага ўваходзіць у працэдуру санацыі.

Паводле заявы аб эканамічнай няздольнасці холдынгу, плацежаздольнасць кампаніі памяншаецца цягам апошніх гадоў. Яна не можа стабільна аплачваць рахункі і мае высокую фінансавую рызыку. Забяспечанасць уласнымі абаротнымі сродкамі не перавышае мінімальны дапушчальны ўзровень і працягвае памяншацца.

Кампанія вінаватая крэдыторам каля 288 мільярдаў 313 мільёнаў рублёў.

**Запазычанасць па заробках і выхадной дапамозе перад работнікамі складае больш за чатыры мільярды рублёў.**

У холдынгу працуе 1 357 чалавек у пасёлку Чысць.

Выканальніку абавязкаў генеральнага дырэктара даручылі падрыхтаваць і падаць у эканамічны суд Мінскай вобласці заяву аб узбуджэнні працэдуры эканамічнай няздольнасці (банкруцтва).

**Даведка "РГ".** Санацыя – аздараўленне прадпрыемства-даўжніка, сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне фінансава-эканамічнага стану прадпрыемства, каб папярэдзіць яго банкруцтва ці павысіць канкурэнтаздольнасць.

**Аддзел інфармацыі.**

● НАВІНЫ

### Футбольныя клубы змогуць атрымаць дазвол на продаж піва падчас матчаў чэмпіянату Беларусі

Пра гэта было сказана на сходзе ў Доме футбола, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларускай федэрацыі футбола (БФФ), айчынных клубаў, МУС, МНС і актыўныя заўзятары.

На пытанне аб тым, чаму, напрыклад, на хакеі падчас матчаў мінскага "Дынама" актыўна гандлююць півам, а для футбольных гульняў існуе забарона, прадстаўнікі БФФ і МУС Беларусі адказалі, што ніякіх перашкодаў у дадзеным пытанні не існуе.

Калі кіраўніцтва таго ці іншага клуба пройдзе ўсе інстанцыі і выканае патрабаванні, устаноўленыя заканадаўствам, а таксама атрымае дазвол мясцовых органаў улады на продаж піва, гандаль можа быць арганізаваны.

**Паводле "Прэсбола".**

### Маршурткі не будуць спыняцца ў мікраараёне №6

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 6 красавіка маршруткі не будуць спыняцца на супрацьлеглым баку дарогі ад павільёна "Чаравічок".

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, начальнік аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**






Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 12.03 | 19.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 200,00 | **15 110,00** |
| Еўра | 16 250,00 | **16 000,00** |
| Злоты | 3 912,86 | **3 870,84** |
| Расійскі рубель | 243,00 | **245,50** |
| Грыўня | 696,28 | **677,58** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 18.03** | | |
| Еўра | 15900/16260 | **16050** |
| Долар ЗША | 14900/15250 | **15130** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.03 | 18.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39900 | **41900** |
| Селядзец, 1 кг | 42500 | **42500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **-** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13200 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13000 | **13000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **4700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6900 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5900 | **5900** |
| Морква, 1 кг | 5900 | **6000** |
| Буракі, 1 кг | 5900 | **6500** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19900 | **19900** |
| Мандарыны, 1 кг | 24900 | **19900** |
| Памідоры, 1 кг | 32900 | **29900** |
| Агуркі, 1 кг | 39900 | **36900** |
| Перац, 1 кг | 43000 | **42900** |
| Вінаград, 1 кг | 34900 | **34900** |
| Бананы, 1 кг | 24000 | **24900** |
| Хурма, 1 кг | 40000 | **45000** |
| Яблыкі, 1 кг | 10900 | **10900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 23900 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

# Асудзілі былога начальніка Смаргонскай ДАІ

## Ён спрабаваў выгарадзіць таварыша, якога злавілі п'яным за рулём

**СМАРГОНЬ. Справу разглядаў суд Лідскага раёна.**

Дырэктар аднаго са смаргонскіх ТАА адпачываў у начным кафэ. Прыехаў туды на ўласным аўтамабілі. Не абышлося без выпіўкі. Каля трох гадзін ночы ён вырашыў адправіцца дадому. Яго не збянтэжыў уласны стан перад тым, як сесці за руль.

У гэты час дзяжурны нарад міліцыі, які заўважыў мужчыну, што накіроўваўся хісткай хадой да аўтамабіля. Як толькі машына пачала рух, міліцыянеры адразу ж рушылі на службовым аўтамабілі следам, справядліва мяркуючы, што за рулём нецвярозы кіроўца.

Міліцыянерам для спынення транспартнага сродку прыйшлося ўключыць праблісквальныя маячкі. Аўтамабіль спыніўся. Супрацоўнікі міліцыі пераканаліся, што іх падазрэнні верныя. У аўтамашыне за рулём знаходзіўся той самы мужчына, які выходзіў з кафэ. На пасажырскім сядзенні знаходзілася сімпатычная дзяўчына.

Патрульныя паведамілі пра затрыманне нецвярозага кіроўцы дзяжурнаму па РАУС, па яго ўказанні даставілі кіроўцу і яго аўтамабіль у аддзел міліцыі і перадалі супрацоўнікам ДАІ.

Яшчэ па шляху да аддзела нецвярозы кіроўца патэлефанаваў некаму і прасіў дапамогі. Інспектары ДПС, атрымаўшы інфармацыю аб затрыманні нецвярозага вадзіцеля, рухаліся да аддзела міліцыі. Па дарозе аднаму з інспектараў патэлефанаваў начальнік мясцовай дзяржаўтаінспекцыі, пацікавіўся абставінамі затрымання.



Парушальніка затрымаў дзяржаўтаінспектр. Сябар парушальніка, начальнік ДАІ, спрабаваў выгарадзіць таварыша.

Фота honiki.by.

> **Перад дастаўкай нецвярозага кіроўцы на агляд начальнік ДАІ даў інспектарам указанне не пісаць у пратаколе пра тое, што грамадзянін кіраваў транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, а зафіксаваць факт здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння.**

А пасля і зусім сказаў падначаленым нічога не пісаць у пратаколе, акрамя асабістых дадзеных, а падаць матэрыялы па ўказаным факце яму асабіста.

Затым пачаліся іншыя цуды: пратакол знік. А сам парушальнік стаў даказваць, што зусім і не ехаў на машыне, а проста ўзяў з яе мабільны тэлефон і збіраўся сыходзіць.

### Прысуд – два гады зняволення

У ходзе следства і парушальнік, і начальнік дзяржаўтаінспекцыі не адмаўлялі свайго шматгадовага сяброўства, аднак стаялі на сваім: парушальнік даводзіў, што паездкі не было, а начальнік ДАІ – што проста раіў супрацоўнікам больш скрупулёзна разабрацца ў сітуацыі. Сабраныя доказы і вялікая колькасць сведкаў не дазволілі ўвесці следства ў зман.

Суд Лідскага раёна прызнаў былога начальніка Смаргонскай ДАІ вінаватым у наўмысным здзяйсненні службовай асобай дзеянняў, якія відавочна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных яму па службе, якія пацягнулі прычыненне істотнай шкоды правам і законным інтарэсам грамадзян, дзяржаўным і грамадскім інтарэсам (перавышэнне службовых паўнамоцтваў), учыненых з асабістай зацікаўленасці.

Прысуд быў такі: пазбаўленне волі тэрмінам на два гады з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму, штраф у памеры ста базавых велічынь і пазбаўленне права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў, тэрмінам на пяць гадоў.

У сувязі з абвешчанай на момант вынясення прысуду амністыяй тэрмін зняволення зменшаны на адзін год.

**Валеры НАЎРОЦКІ, старшы памочнік пракурора Лідскага раёна, Таццяна КУДРАШОВА.**

● СЛУЖБА 101

## Праз чайнік загарэлася спартыўна-аздараўленчая база

**ВАЛОЖЫН. 15 сакавіка ў дзве гадзіны дня адбыўся пажар у спартыўна-аздараўленчай базе "Галактыка" побач з Ракавам.**

Выратавальнікаў выклікаў дырэктар. Ён паведаміў, што гарэць спальныя пакоі.

Калі прыехалі выратавальнікі, у калідорах было моцна задымлена. Як пасля высветлілася, пажар пачаўся ад электрычнага чайніка, які быў уключаны ў сетку.

У выніку пажару згарэў чайнік, пашкоджаны халадзільнік, на якім ён стаяў, закураны сцены. Ніхто не пацярпеў.

Пра здарэнне распавёў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Валожынскага РАНС **Алег Калітнік**.

**Галіна СІНІЦА.**

## У пажары загінуў пенсіянер

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніцай 12 сакавіка ў цэнтр аператыўнага ўпраўлення Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне аб загаранні ў жылым доме ў вёсцы Заскавічы.**

Выратавальнікі, калі прыехалі на месца здарэння, убачылі, што жылы дом задымлены.

У выніку пажару ў пакоі былі пашкоджаны прадметы мэблі, закураныя сцены.

У калідоры яны знайшлі труп загінулага 61-гадовага гаспадара.

Прычына пажару высвятляецца.

**Кацярына КРАЎЧОНАК, спецыяліст групы прапаганды і навучання інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

● МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць відавочцаў аварыі па вуліцы Лясной

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 лютага а палове дзявятага вечара адбылася аварыя па вуліцы Лясной.**

Кіроўца аўтамабіля "Мазда-323" ехаў у накірунку вёскі Цівідаўка, выехаў на паласу сустрэчнага руху і збіў пешахода. Ён рухаўся ў сустрэчным накірунку.

Ад атрыманых пашкоджанняў пешаход памёр на месцы здарэння.

Відавочцаў здарэння просяць звярнуцца ў Маладзечанскі РАУС па адрасе: вуліца Тамары Дудко, 1, пакой 18. Альбо патэлефанаваць па наступных нумарах: **(80176) 745340, (80176) 745343** ці **102**.

Паводле начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС падпалкоўніка міліцыі **Дзмітрыя Юркевіча**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Шукаюць відавочцаў аварыі па Касманаўтаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 17 лютага па Касманаўтаў побач з домам 13.**

Кіроўца аўтамабіля "Рэно-Меган" рухаўся ў накірунку Лібава-Роменскай і наехаў на пешахода, які пераходзіў дарогу злева направа па ходу руху машыны.

Пешаход атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні, небяспечныя для жыцця.

Сведак, якія бачылі здарэнне, просяць звярнуцца па адрасе: вуліца Тамары Дудко, 1, пакой 18. Альбо патэлефанаваць па наступных нумарах: **(80176) 745340, (80176) 745343** ці **102**.

Паводле начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС падпалкоўніка міліцыі **Дзмітрыя Юркевіча**.

**Аддзел інфармацыі.**



● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Галава захрасла паміж трубамі ў прыбіральні

**ВАЛОЖЫН.** Днём у нядзелю, 15 сакавіка, выратавальнікі прынялі не зусім звычайны выклік. Дапамога спатрэбілася 42-гадоваму мужчыну, у якога ў прыбіральні паміж трубамі захрасла галава.

Пра гэта распавяла старшы інспектар цэнтра прапаганды і навучання пры Мінскім абласным упраўленні па надзвычайных сітуацыях **Наталля Шынгель**.

Выратавальнікі высветлілі, што 42-гадовы мужчына, які працуе мулярам на адным з прадпрыемстваў Валожыншчыны, рамантаваў сантэхніку ў туалеце і па неасцярожнасці засунуў галаву паміж трубамі.

Работнікі МНС вызвалілі мужчыну. Медыцынская дапамога яму не спатрэбілася.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

## Так хацелі выпіць, што залезлі ў краму

**ВІЛЕЙКА.** Увечары 1 сакавіка ў Вілейцы абрабавалі краму ў мікрараёне Паўночны-2. Для гэтага ўзламалі аконную раму. У краме недалічыліся некалькіх мільёнаў рублёў, дзвюх бутэлек гарэлкі і двух блокаў цыгарэт.

Па гарачых слядах затрымалі 20-гадовага віляйчаніна і 26-гадовага жыхара Маладзечанскага раёна.

– Мужчыны былі нападпітку, ішлі з пікніка. Па дарозе захацелася выпіць яшчэ. Не прыдумалі нічога іншага, як залезці ў краму, – расказаў пра акалічнасці здарэння часовы выканаўнік абавязкаў начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Гарэлку яны паспелі выпіць, выкурылі частку цыгарэт.

Узбудзілі крымінальную справу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Загінуў кіроўца

**СМАРГОНЬ.** Аварыя адбылася каля дзевяці гадзін вечара 16 сакавіка.

У 32-гадовага кіроўцы БМВ толькі напярэдадні закончыўся трохгадовы тэрмін пазбаўлення правоў.

Ён вяртаўся з кафэ з сябрам. Ехаў па прыватным сектары і на вуліцы Асланава рэзка выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з "Фольксвагенам".

Віноўнік ДТЗ загінуў на месцы. Другі кіроўца з пераломамі шпіталізаваны. Стан загінулага да сутыкнення вызначыць экспертыза.

**Паводле "Чалавек і закон".**

НАВУЧАННЕ

# У ВНУ можна вучыцца па скарочаным тэрміне

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ. ВІЛЕЙКА. Сёлета ў Маладзечанскім медыцынскім каледжы на медыцынскіх сясцёр будуць вучыць год і дзесяць месяцаў. Маладзечанскі гандлёва-эканамічны каледж дапамагае ўсім навучэнцам працаўладкавацца.**



Вучоба ў Вілейскім дзяржаўным каледжы – гэта не толькі пазнавальны занятак, але і добрая магчымасць паказаць свае крэатыўныя здольнасці.

Фота з суполкі vk.com.

Сёлета Маладзечанскі гандлёва-эканамічны каледж Белкаапсаюза набірае 350 навучэнцаў: 81 чалавека – на завочную форму навучання, 269 чалавек – на вочную.

Ім прапануюць навучанне па пяці спецыяльнасцях: бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль, эканоміка і арганізацыя вытворчасці, камерцыйная дзейнасць, праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій і правазнаўства.

## Выпускнікоў залічваюць на трэці курс ВНУ

Навучэнцы залічваюцца на гэтыя спецыяльнасці па конкурсе дакументаў аб адукацыі.

– Каледж супрацоўнічае больш чым з 50 вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, – гаворыць намеснік дырэктара па вытворчым навучанні Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа Белкаапсаюза **Тацццяна Васюта**. – Сярод іх Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт, Беларускі гандлёва-эканамічны універсітэт спажывецкай кааперацыі ў Гомелі, Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт (БНТУ), Беларускі аграрны тэхнічны універсітэт, універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, "БІП – інстытут правазнаўства", міжнародны універсітэт "МІТСО".

Навучэнцаў, якія скончылі гандлёва-эканамічны каледж, могуць залічваць на трэці курс гэтых універсітэтаў. Ім трэба толькі здаць цэнтралізаванае тэставанне па мовах, рускай альбо беларускай, і ўнутраны экзамен па спецыяльнасці.

Іншагароднім навучэнцам даюць інтэрнат.

Як адзначыла Тацццяна Васюта, каледж дапамагае знайсці працу і тым, хто вучыцца платна.

**28 сакавіка ў 12 дня ў Маладзечанскім гандлёва-эканамічным каледжы Белкаапсаюза пройдзе дзень адкрытых дзвярэй.**

## Скарацілі тэрмін навучання ў медыцынскім каледжы

Сёлета ў Маладзечанскім дзяржаўным медыцынскім каледжы тэрмін навучання па спецыяльнасці сястрынская справа будзе год і дзесяць месяцаў. Раней два гады і дзесяць месяцаў.

Фельчары-акушэры, памочнікі доктара па амбулаторна-клінічнай дапамозе будуць вучыцца па-ранейшаму два гады і дзесяць месяцаў.

– Цяпер навучэнцам не трэба будзе здаваць цэнтралізаванае тэставанне, каб паступіць у каледж, – расказвае адказны сакратар прыёмнай камісіі Маладзечанскага дзяржаўнага медыцынскага каледжа **Алена Крук**. – Для паступлення трэба толькі бал атэстата.

Іншагароднія навучэнцы забяспечваюцца інтэрнатам.

У каледжы няма сталовай, але ў навучэнцаў з'явілася магчымасць абедаць на месцы.

– У абед у каледж прывозяць гатовыя гарачыя стравы ў спецыяльных кантэйнерах, – адзначае Алена Крук. – Канешне, у там няма вялікай колькасці выбару: ёсць толькі адна першая страва, напрыклад, боршч, у другую страву ўваходзіць гарнір, катлета, салата. Але гэта добрая магчымасць комплексна падсілкавацца. Цэны даступныя.

**16 мая ў 10 раніцы ў Маладзечанскім дзяржаўным медыцынскім каледжы пройдзе дзень адкрытых дзвярэй.**

## У ВНУ можна вучыцца скарочана

У Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы прапануюць паступаць на восем спецыяльнасцяў: мехатроніка, тэхналогія харчовай вытворчасці, тэхналогія захоўвання і перапрацоўкі харчовай раслiннай сыравіны, мантаж і эксплуатацыя электраабсталявання, тэхнічная эксплуатацыя радыёэлектронных сродкаў, прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва, абсталяванне і эксплуатацыя жылых дамоў.

– У каледжа падпісаная дамова з сямю універсітэтамі, – адзначае адказны сакратар прыёмнай камісіі Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа **Алена Арловіч**. – Таму навучэнцы маюць магчымасць паступаць на скарочаны тэрмін навучання.

## У Смаргонскім ліцэі навучанне бясплатнае

У Смаргонскім дзяржаўным політэхнічным прафесійным ліцэі набяруць 75 навучэнцаў пасля агульнай базавай адукацыі.

– Як і заўсёды, будзе тры групы: першая – муляр, электразваршчык ручной зваркі, затым – маляр, абліцоўшчык-плітачнік і швачка-цырульніца, – расказала намесніца дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Смаргонскага дзяржаўнага політэхнічнага прафесійнага ліцэя **Тэрэза Кабялькова**.

## У Вілейцы будуць рыхтаваць візажыстаў

У Вілейскі дзяржаўны каледж набяруць 305 навучэнцаў.

Сёлета адновяць навучанне па спецыяльнасці майстар па манікюры.

– Мы таксама першая ў Мінскай вобласці ўстанова адукацыі, якая будзе рыхтаваць візажыстаў, – адзначае намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Аляксандр Тышчук**. – Дзяўчаты змогуць атрымаць гэту спецыяльнасць пасля дзявятага класа.

Цяпер выпускнікі 9-х і 11-х класаў могуць атрымаць адразу сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесію тэхніка-электрыка і аўтамеханіка. Дагэтуль такіх спецыялістаў рыхтавалі на базе прафтэхадукацыі.

**Галіна СІНІЦА.**




Віталь Рогач выступае на леташнім музычным конкурсе "Адна зямля" ў Валожыне, дзе заняў другое месца. Адзін з сузаснавальнікаў гэтага штогадовага конкурсу – "Рэгіянальная газета".

● МУЗЫКА

# На "Адной зямлі" спяваў з рукой у гіпсе

**ВІЛЕЙКА. У свае 12 год Віталь Рогач з Вілейкі паспеў стаць пераможцам і прызёрам некалькіх вакальных конкурсаў, у яго ёсць ужо першы кліп.**

Сёння Віталь раскажа, хто з артыстаў з'яўляецца яго кумірам. Раскрые, чаму нават зламаная рука не спыніла яго ад удзелу ў конкурсе.

Спяваць на сцэне Віталь пачаў яшчэ ў садку. Прыгадвае першую песню, якую выконваў у пяць з паловай год, – "Сонца над маёй Беларуссю". Здольнасці да спеваў у хлопчыка разгледзела музычны кіраўнік садка **Людміла Вазняк**.

Ад сямі год ён займаецца ў ансамблі "Грамнічкі" пад кіраўніцтвам **Алесі Высоцкай**. Цяпер Віталь – саліст узорнай эстраднай студыі "Экспромт" Палаца культуры (музычныя кіраўнікі **Алег** і **Нэлі Зайцавы**).

### На конкурс паехаў з рукой у гіпсе

Віталь удзельнічае ў розных конкурсах. Заваяваў Гран-пры на конкурсе "Зорачкі "Надзеі" ў 2014 годзе, стаў лаўрэатам другога абласнога фестывалю мастацкай самадзейнай творчасці дзяцей медыцынскіх работнікаў.

Найбольшым поспехам лічыць другое месца ў сваёй узроставай групе ў рэгіянальным фестывалі-конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" летась.

У гэтым конкурсе ён удзельнічаў другі раз. У 2013 годзе давялося выступаць са зламанай рукой.

– Быў настроены рашуча на ўдзел, таму зламаная рука перашкодай не стала, – прыгадвае Віталь.

Выступаць даводзілася з рукой у гіпсе. Тады намаганні віляйчаніна журы ацаніла дыпломам "Творчая надзея". Праз год ужо было прызавое месца. Збіраецца ўдзельнічаць у "Адной зямлі" і сёлета: спадзяецца нека-лі і першае месца заняць.

### "На сцэне адчуваю сябе лёгка"

Песні яму падабаецца спяваць розныя, і куміраў шмат ёсць. Але асабліва вылучае італьянскага спевака і акцёра **Адрыяна Чэлентана**. Якраз на першай для сябе "Адной зямлі" спяваў яго песню.

**– Чым Чэлентана даспадобы?**

– Люблю італьянскія матывы, падабаецца тэмбр яго голасу.

Віталь не толькі спявае. Ён яшчэ вядучы многіх канцэртаў. За гэта таксама ўзнагароду мае – абласнога цэнтра народнай творчасці.

**– Што больш падабаецца – спяваць ці быць вядучым?**

– Спяваць. Вельмі гэта люблю. Люблю сцэну, на ёй адчуваю сябе лёгка.

Мару паступіць ва ўніверсітэт культуры і мастацтваў.

На днях у юнага спевака з'явіўся першы кліп – на песню "Перамога". **Канстанцін Осіпаў** з Вілейкі пачуў яго выступленне на агглядзе самадзейнасці. Патэлефанаваў, прапанаваў зрабіць кліп. Таму зараз на youtube ў інтэрнэце можна адшукаць не толькі запісы выступленняў Віталя, а і кліп.

### Захапленні вучобе не перашкода

Захапленняў у Віталя шмат. Вядома, на першым месцы музыка. Штодня рэпетыцыі, заняткі ў музычнай школе. Ён вучыцца іграць на скрыпцы, асвойвае фартэпіяна. Удзельнічае ў школьных і гарадскіх мерапрыемствах. Пра спорт не забывае.

За ўсім гэтым паспявае вучыцца на выдатна (ён шасцікласнік сярэдняй школы №5). Прызнаецца, што знаходзіць час на ўсё цяжкавата. Але ж, тлумачыць, калі пачаў ужо з пачатку школы выдатна вучыцца, то і надалей трэба так трымаць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Як дапамагчы дзіцяці развіць здольнасці?**

Адказвае мама Віталя, **Таццяна Рогач**:

– Трэба займацца з ім, ва ўсім падтрымліваць. Супакоіць, калі нешта не атрымліваецца. Бацькам неабходна мець вытрымку: спакойна растлумачыць, для чаго тое ці іншае трэба, чым яму гэта дапаможа.

● МУЗЕІ

# Ад манет да чайных пакецікаў пакажуць на "Тыдні калекцыянера"

**ВІЛЕЙКА. Новы праект прэзентуе краязнаўчы музей. Гэта культурна-выставачная адукацыйная праграма "Тыдзень калекцыянера".**

– Праект разлічаны на 12 месяцаў. Адзін тыдзень у месяц у музеі будуць праходзіць мінівыставы самых цікавых нашых калекцый, а таксама з уласных збораў жыхароў Вілейшчыны, – расказвае навуковы супрацоўнік установы **Надзея Аўдзей**.

Мэта такога праекта – не толькі паказаць цікавыя прадметы з фондаў музея, а і прыцягнуць да супрацы калекцыянераў. Арганізаваць сустрэчы з імі, стварыць для іх своеасаблівую пляцоўку – з тым, каб яны маглі пазнаёміцца, абмяняцца ведамі.

### Ад значкоў да цацак

Для "Тыдня калекцыянера" вызначылі такія тэмы: "Нумізматыка і баністыка" (манеты і банкноты), "Фалерыстыка" (значкі), "Філаменія" (запалкавыя карабкі), "Глюкафілія" (пакецікі з цукрам) і чайныя пакецікі", "Філакартыя і посткросінг" (паштоўкі), "Фарфор" , "Філатэлія", "Календары", "Ад ліхтара да лямпачкі Ільіча", "Цацка СССР", "Галаўныя ўборы і брытвы", "Совы, чарапахі, сланы". Тэмы могуць яшчэ памяняцца, кажа **Надзея Аўдзей.**

### Пачнуць з манетаў і банкнотаў

Праект "Тыдзень калекцыянера" стартуе 24 сакавіка. Пачнецца ён з нумізматыкі і баністыкі.

Будзе экспанавацца больш за 200 прадметаў з фондаў музея. Да іх далучаць свае найбольш цікавыя манеты і банкноты калекцыянеры. Прымуць удзел чатыры калекцыянеры з Вілейшчыны. Яны рознага ўзросту і розных заняткаў.

### Як прыняць удзел у праекце

Заяўку можна падаць па нумары 8-1771-5-41-47, або на электронны адрас vil_museum@mail.ru. Трэба пазначыць "Тыдзень калекцыянера", а таксама прозвішча, імя, імя па бацьку, назву сваёй калекцыі і тэлефон.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Цікавыя факты пра калекцыяніраванне**

● Першая самая старажытная калекцыя належала Арыстоцелю. Яна складалася з розных экзатычных раслін.

● Імператар Пётр I з юнацтва збіраў зброю, рэдкія манеты і мінералы, усе што было дзіўнае і незвычайнае.

● Кардынал Рышэльё і французскі генерал Віндам былі азартнымі калекцыянерамі трубак для курэння.

● Імператар Напалеон збіраў гадзіннікі і алавяных салдацікаў, а канцлер Бісмарк – градуснікі.

● Іаган Вольфганг фон Гётэ быў буйным калекцыянерам мінералаў. Вальтэр Скот збіраў зброю розных краін. Мікалай Някрасаў сабраў 64 віды паляўнічых ружжаў.

● Анатоль Франс валодаў вялікай калекцыяй настольных званочкаў. Жюль Верн збіраў карты і даведнікі, Артур Конан-Дойл – рэкламныя буклеты транспартных кантор, параходных кампаній і страхавых агенцтваў. Віктар Гюго калекцыяніраваў парасоны.

● НАВІНЫ

## На фестывалі батлеечных калектываў у Залессі выступяць больш за дзесяць калектываў

**СМАРГОНЬ.** Першы рэгіянальны фестываль батлеечных калектываў пройдзе на выхадных, 21 і 22 сакавіка.

На ім выступяць батлеечныя калектывы са Смаргонскага раёна, Мінска і Мінскай вобласці, Магілёва, Навапалацка, Міра, Ліды і іншых рэгіёнаў краіны.

Адкрыццё адбудзецца 21 сакавіка, у суботу, у 11 гадзін дня ў раённым Цэнтры культуры па вуліцы Ветэранаў, 9.

У 11:40 – конкурсныя выступленні.

Яны працягнуцца 22 сакавіка а палове адзінаццатай. Ад чатырох гадзін дня пачнецца ўрачыстае закрыццё фестывалю. Узнагароджанне пройдзе ў раённым Цэнтры культуры.

**Паводле сайта "Залеская талака".**

## Адбудзецца сустрэча з Юрыем Жыгамонтам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яна адбудзецца 21 сакавіка, у суботу, а шостай гадзіне вечара.

У вас ёсць магчымасць сустрэцца з вядучым тэлепраекта "Новыя падарожжы дылетанта" акцёрам і журналістам **Юрыем Жыгамонтам**.

Сустрэча пройдзе ў прыватнай гасцёўні па вуліцы Чыстай, 26.

**Аддзел інфармацыі.**

● КОНКУРСЫ

# Галасуйце за маладзечанцаў у шоу "Я магу!"

**МАЛАДЗЕЧНА. Трое прадстаўнікоў з нашага рэгіёна трапілі ў паўфінал шоу "Я магу!". Усе яны з Маладзечаншчыны.**

Хто з іх, магчыма, стане пераможцам і атрымае грашовы прыз і аўто Geely EX7, вырашаць гледачам. Прагаласаваць за **Кацярыну Малец**, **Аляксандра Напорку** і **Андрэя Мікульчыка** можна шляхам інтэрактыўнага галасавання ў прамым эфіры шоу "Я магу!"

Тэлепраект "Я магу!" выходзіць у эфір па суботах а 19 гадзіне на тэлеканале "Беларусь 1".

Паўфінал з удзелам Кацярыны Малец адбудзецца 28 сакавіка, паўфінал з удзелам Аляксандра Напоркі – 11 красавіка, Андрэя Мікульчыка – 18 красавіка.

Фінал шоу "Я магу!" адбудзецца 29 красавіка.

**Аддзел інфармацыі.**

• Аўтобусныя туры (экскурсійныя, з адпачынкам на моры). Падбор тураў! Гарачыя прапановы! Візавая падтрымка. Авіябілеты. ТАА "АлеОльТур" УНП 691513097 г.Маладзечна, вул. Віленская, 24. Тел. (8-0176) 770762, (8-029) 3905944.*

• **БУХГАЛТАРСКІЯ ПАСЛУГІ ДЛЯ ФІЗІЧНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ. СТВАРЭННЕ І ЛІКВІДАЦЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙ, ВЯДЗЕННЕ, АДНАЎЛЕННЕ БУХГАЛТАРСКАГА ЎЛІКУ, УСЕ ПЫТАННІ ПА ЗДАЧЫ ПАДАТКОВЫХ ДЭКЛАРАЦЫЙ, ФСЗН, БЕЛДЗЯРЖСТРАХ**. ЧУП "Мегама" УНП 691887778, г.Маладзечна, ул. В.Гасцінец,143 (ГЦ "Тройка"), офіс 520. **Т. ВЭЛКОМ (8-029) 1298889, МТС (8-029) 7498889, (8-0176) 759888,** mail: megama@tut.by.*

• Вароты, агароджы, навесы, казыркі. Зварныя, кованыя. З прафнасцілу. Наяўны і безнаяўны разлік. Дастаўка, мантаж. ІП Горынаў С.В. УНП 691886651. Т. (8-033) 3917208, (8-029) 9857268.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Вырабім пад заказ і ў наяўнасці: альтанкі, туалеты, домікі садовыя, лаўкі, накрыўкі для калодзежаў, драўляныя агароджы. УНП КА2090527. Т. МТС (8-033) 6022193, Вэлком (8-029) 9880868.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаус, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417, (8-029) 5544175.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Еўрасцяжка. ІП Зіневіч Е.П. УНП 591702887. Тел. МТС (8-029) 2335084, Вэлком (8-029) 3823187.*

• **ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ГРМ, ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Паслугі электрыка. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

• **ПАШЫЎ АЎТАМАБІЛЬНЫХ СЯДЗЕННЯЎ І ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці і розных матэрыялаў за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. (8-029) 6932184.*

• Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*

• Плітачніка па якаснай ўкладцы пліткі, выраўноўванні сцен і падлогі. Т. (8-029) 7709929.*

• Рамонт ноутбукаў і камп'ютараў. Устаноўка Windows, Wi-Fi, антывірус. Выезд. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ. ПА ГОРАДУ**. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шаповал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, кроквенная (стропильная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СТАПЕЛЬНЫЯ РАБОТЫ, ЗВАРАЧНЫЯ, АНТЫКАРАЗІЙНУЮ АПРАЦОЎКУ КУЗАВА, ЗАМЕНУ АЎТАШКЛА, ПАДБОР АЎТАЭМАЛЯЎ, АФАРБОЎКУ КУЗАВА ВЫКОНВАЕ СТА "КУЗАЎ". НАЯЎНЫ І БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЛІК. ТАА "ІНЖЫНЕРТРАНССЭРВІС" УНП 691298030. Т. (8-044) 5949555, (8-033) 6746555.***

• **СТУДЫЯ ТАТУ** "Карона Арт" прапануе татуаж броваў, павек і губ, мастацкую татуіроўку. ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044, (8-029) 7080997.*

• Усе віды будаўнічых работ. Наяўны і безнаяўны разлік. ЧБУП "ЮлМірБуд", УНП 591804221. Т. (8-029) 2827362.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Канановіч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

• Шынамантажа паслугі, раскатка дыскаў, зварка аргонам, рамонт падвескі. ІП Арол Д.Ф. УНП 691884036. Т. (8-033) 3836130, (8-044) 7841878.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Ванна чыгунная новая,170смx70 см. Т. (8-029) 8724725.*

• Камень палявы. Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6325292.

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Сетка рабіца ацынкаваная 1 м, 1,2 м, 1,5 м. Т. (8-025) 5284811.*

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Гноераскідальнік ПРТ-7, зернеачышчальная машына "Пектус-Гігант", машына для вырабу круп. Т. Вэлком (8-029) 3053719, (8-01771) 60331.

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• МТЗ-80, 1987 г.в., пасля капрамонту КПП і пераходніка, 80 000 000 руб ці абмен на меншы па габарытах трактар з абсталяваннем. Т. МТС (8-029) 2521691.

• Прычэп аднавосевы. Т. (8-029) 8754610.

• Прычэп да мотаблока. Т. (8-029) 6525751.

• Трактар МТЗ-50, 1978 г.в. (1990 капрамонт рухавіка, 1990 – замена каробкі) з навясным абсталяваннем і запчасткамі, 95 000 000 руб, торг. Т. Вэлком (8-029) 6769678, Лайф (8-025) 7151014.

• Трактар МТЗ-82. УК. Т. (8-029) 7871546.*

• Трактар самаробны не на хаду, 8 500 000 руб. Т. (8-029) 6847035.*

• Трактар Т-25. Т. (8-029) 2547792.*

• Трактар Т-40 з прычэпам і дакументамі. Вілейка. Т. МТС (8-033) 6620919.

### Бытавая тэхніка

• Швейная машына нажная, новая. Маладзечна. Т. (8-029) 1971478.



### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
8-029-570-22-12
8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

### Мэбля

• Табурэты новыя, 4 шт., 400 000 руб. Т. (8-025) 9663109.*

• Ложак двухспальны. Т. (8-033) 3424186. (8-029) 9674202.

• Шафа 3-створкавая з антрэсолямі, ложак 1,5-спальны, шафкі кухонныя, усё б/у. Маладзечна. Т. (8-029) 1971478.

• Тахта 1х1.9, б/у, выдатны стан. Т. (8-029) 6458473.

### Жывёла, птушка, пчолы

• Бычок і авечка на дарошчванне. Т. МТС (8-029) 2725536.

• Канарэйкі спяваючыя. Маладзечна. Т. (8-029) 1971478.

• Парасяты 6 тыдняў. Парода Белая буйная. Т. (8-029) 1353930.

• Парасяты. Т. (8-029) 1096721, (8-0176) 755225.

• Свінні, парасяты ў Вілейцы. Т. (8-029) 3350316.*

• Трусоў на племя і мяса; кармавыя буракі. Т. (8-029) 8580127.

• Шчаняты ёрка. Т. (8-029) 5719668, (8-029) 9368569.*

• Шчаняты ёркшырскага тэр'ера (2,5 мес.), радаслоўная, стандарт, кабялькі. Т. (8-029) 6135093.*

### Іншае

• Аўтасядзенне – бустэр дзіцячае (15-36 кг). Т. (8-029) 3732422.

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 8789740.*

• Бульба буйная Рэд-Скарлет. Магчыма дастаўка. Т. МТС (8-029) 2520233.

• Бульба буйная смачная ў Вілейцы. Т. (8-01771) 22416, МТС (8-029) 8486406.

• Бутлі 20 л шкляныя, бітоны 40 л капрон. Т. у Маладзечна-4 753046, (8-033) 6407558 Аляксандр.*

• Бытоўкі, дачныя дамы, альтанкі, металічныя гаражы, уязныя і гаражныя вароты, лесвіцы на гарышча, навесы, агароджы. Індывідуальны падыход, дастаўка, мантаж. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Садоўскі А.В. УНП 691177949. Т. МТС (8-029) 5752805, Вэлком (8-029) 3334403.*

• Вокны ПВХ 1,50х1,20 (2 шт.). Вокны драўляныя (шклопакеты) 0,86х0,56 (3 шт.), 1,46х0,56 (2шт,) Дзверы ПВХ (узмоцненыя, глухія) 2,00х1,25 (2 шт.). Шклаблокі – 47 шт. Танна. Т. Вэлком (8-029) 3590794. Вэлком (8-029) 1920432.*

• **ВЫРАБЫ З МАСТАЦКАЙ КОЎКІ.** Вароты, казыркі, поручні, агароджы, садовая мэбля і інш. **ЦЯПЛІЦЫ** з профільнай ацынкаванай трубы па вельмі нізкіх цэнах. ІП Варановіч А.М. УНП 691175298. Т. (8-029) 5355470, (8-029) 2728695.*

• Газонакасілка новая ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 7626614.

• Дровы ў Вілейцы. Т. (8-044) 4784873, (8-033) 6580342.*

• Зруб двухпавярховы + веранда. Т. (8-029) 7737594.

• Зруб лазні новы 3х4 з мансардай 2х4. Т. МТС (8-033) 6577783.

• Інкубацыйныя яйкі і кураняты, май – чэрвень, розных парод. Т. (8-029) 6406985.*

• Пасека, танна. Т. (8-029) 1738122.*

• Печ у лазню. Г. Вілейка. Т. (8-029) 6165118.*

• Прафнасціл. Т. (8-029) 7606894.*

• Сем'і пчол, вуллі; батарэі чыгунны новыя; ровар дамскі новы; вокны драўляныя новыя 140х140 см, 5 шт. Т. (8-0176) 763243.*

• Сена, плуг, хамут, аброць (уздечка). Т. (8-029) 2757343.

## КУПЛЮ

### Мэблю

• **СТАЛЫ І КРЭСЛЫ ДЛЯ СТАЛОВАЙ НА 80-100 ПЕРСОН (МОЖНА Б/У). ТАА «АНАЛАГ- БУД» УНП 691396416Т. (8-029) 3292790.***

### Антыкварыят

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБ_РАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

### Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Дошку падлогі б/у. Т. Вэлком (8-029) 9156731, МТС (8-029) 2195848.

## ІНШАЕ

• Кабель нямецкай аўчаркі (з дакументамі) павяжа суку. Т. (8-029) 8580127.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Вадзіцеля катэгорыі "C", "E" па РБ і РФ. Стаж работы больш 5 год. Т. (8-01771) 44201, (8-029) 2765825.

• Па касметычным і капітальным рамонце, дахавых работах. Т. (8-029) 774666, (8-029) 1035755.

• Па ўсім відам аддзелачных работ. Фасады, дахі, сайдынг, фундамент. Т. (8-033) 3843933, (8-044) 4733871.*

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Адміністратар (дзяўчына) у сэрвісны цэнтр па рамонце мабільных тэлефонаў у Валожыне. ТДА "Клаттон" УНП 190101114. Т. (8-029) 3971772.*

• Прадавец харчовых тавараў у ЧТУП "Восторг-Лик" у Вілейцы. УНП 691168652. Т. (8-029) 7756165, (8-029) 6129815.*

**БУРЕНИЕ СКВАЖИН НА ВОДУ**
**малогабаритной установкой, без повреждения насаждений. Подбор оборудования.**
**ПОДВОД ВОДЫ в дом**
Тел. МТС **(8-029) 773-75-94**, Велком **(8-029) 316-33-59.**
ИП Клышпач Д.А. УНП 490980355

**ОКНА, ДВЕРИ ПВХ**
- Различные системы профилей (от 3-х до 6-ти камер, 60-86 мм)
**МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ**
- Широкий выбор моделей от эконом до элит класса.
- Отделка из высококачественных и натуральных материалов.
- Низкие цены.
- Замер, доставка, установка.
ТЕЛ. **(8-029) 2568226, (8-029) 7077740.**
ИП Гурин П.П. УНП 691886304

**РЕМОНТ, ПРОДАЖА ПОКУПКА НОУТБУКОВ, КОМПЬЮТЕРОВ и ПЛАНШЕТОВ**
по лучшим ценам.
Тел. **МТС(8-029) 2548991, Велком (8-029) 9534946**
ЧТУП «РунКомп», УНП 690552869.

**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ** низкие цены
от производителей Германии, Франции, Бельгии, Италии
- двухуровневые 3D потолки
- профессиональный монтаж
- СКИДКИ новоселам и пенсионерам
- выезд на замер БЕСПЛАТНО
- гарантия 15 лет
**8 (029) 547-04-42**
**8 (044) 711-04-42**
ИП Езепа Е.В. УНП 691884490

ИП Шульжицкий О.В. УНП 691882990
**OSB ПЛИТЫ**
! Официальный дилер
Цены первого поставщика!
Молодечно, ул. Виленская, д.1, к. 111. Тел. (029) 153-10-37, (0176) 50-26-37

**ДВЕРИ**
Замер, доставка **бесплатно**
• Массив: ель, ольха, дуб
• Шпон
• Экошпон
• ЗДХ
• МДФ
• Сталь
**Тел.** Велком **8-029 3542985**, МТС **8-029 7508989**, (8-0176) **758388**
ИП Язынин А.В. УНП 691512394

**Производственное унитарное предприятие «Испытатель» предлагает следующие услуги:**

**ПОВЕРКА:** манометры, вакуумметры (все виды).

**ИСПЫТАНИЯ** (серификационные, периодические, приемочные):
• мини-трактора и мотоблоки;
• навесное и прицепное оборудование к сельскохозяйственной технике;
• средства малой механизации, двери внутренние и входные, окна для зданий и сооружений, детали профильные из древесины и древесных материалов для строительства;

**ИНСТРУМЕНТАЛЬНЫЕ ЗАМЕРЫ ДЛЯ ПРОВЕДЕНИЯ АТТЕСТАЦИИ РАБОЧИХ МЕСТ**
(замеры шума и вибрации, освещенности, микроклимата, определение концентрации вредных веществ в воздухе рабочей зоны).

Тел./факс: **(8-01592) 34125, 34527**.

**ООО «Халес» г. Сморгонь требуется на работу:**
Вакансия на должность: ***Инженер ОТК*** *(отдел технического контроля)*
Количество вакантных мест: ***2***
Образование соискателя: *высшее, инженерно-техническое (желательно БГТУ)*;
Опыт работы: *в должности инженера ОТК/СТК не менее 5-и лет;*
Обязанности инженера ОТК:
> *контроль за соблюдением технологической дисциплины в производстве.*
> *сертификационное сопровождение выпускаемой продукции.*
> *контроль за метрологическим оборудованием, поверка мерительного оборудования.*
> *выявление и отслеживание причин технологического брака в технологическом процессе производства.*
> *входной контроль сырья и материалов.*
Заработная плата: *от 5 000 000 белорусских рублей*
Контакты: *тел/факс +**3751592-42043**, gsm +**37529-3993722***
e-mail для резюме: ***hales@tut.by***
с пометкой - #резюме соискателя на инженера отк#
ООО "Халес" УНП 500589892

ООО «МЕГА ЛИТАС»
**ПАМЯТНИКИ**
ОТ **2900000** р. ЗА КОМПЛЕКТ
*Ограды, Бордюры, Вазы, Плитка*
ДОСТАВКА, УСТАНОВКА
- г. Минск, т. (8017) 2830198, vel. (8029) 6054225
- г. Молодечно, т. (80176) 733974, vel. (8044) 7738171
- г. Мядель, т. (801797) 50584, vel. (8044) 5551046
- г. Вилейка, т. (801771) 22884, vel. (8029) 6054224
- Эл. адрес: megalitas@mail.ru
УНП 690244253

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як перамагчы вясеннюю дэпрэсію

**Нягледзячы на тое, што адчуваецца цяпло, нас чамусьці паглынае апатыя, хандра, а жыццё можа падацца бессэнсоўным і сумным.**

Калі вы перажываеце падобныя пачуцці, у вас можа быць сезоннае расстройства, якое называюць вясенняй дэпрэсіяй.

Гэта расстройства звязваюць з недахопам сонца і павышанай сакрэцыяй мелатаніна.

**Вясенняя дэпрэсія гэта працяг восеньска-зімовага расстройства.**

“Дэпрэсія – гэта жанчына ў чорным, якая грукае ў дзверы. Калі ты прагоніш яе, яна будзе стаяць на ганку твайго дома вечна. Калі запросіш яе, пасадзіш за стол, накорміш, а толькі пасля распытаеш пра мэту візіту, атрымаеш шанец развітацца з ёй назаўсёды”. Так сказаў псіхааналітык Карл Густаў Юнг.

## Прыкметы вясенняй дэпрэсіі:

- раздражненне
- жаданне схавацца ад усіх
- нічога добрага не чакаеце
- трывожнасць
- складана засяродзіцца
- слабая палавая цяга
- адчуванне сваёй нікчэмнасці і віны
- складана прачнуцца, няма энергіі
- санлівасць ці бяссонніца
- збой у апетыце
- думкі пра бессэнсоўнасць жыцця.

## Адкажыце сабе на пытанні:

1. Якую карысць мне дае дэпрэсія?
2. На што ідзе большая частка маёй энергіі? Што найчасцей мяне хвалюе? Што насцярожвае?
3. У якіх сферах жыцця я адчуваю моцнае напружанне. У чым мая незадаволенасць ці раздражненне? Як я іх выказваю ці не выказваю?
4. Чаго мне не хапае, але моцна хочацца? Чаго я сабе не дазваляю?

## Паклапаціцеся пра сябе

Пастаўцеся з разуменнем да сезоннай дэпрэсіі. Знайдзіце ў ёй штосьці добрае для сябе.

Калі ў вас такі стан – значыць, гэта для чагосьці трэба. Замарудзьце тэмп, азірніцеся вакол сябе, змяніце абстаноўку, не патрабуйце ад сябе вялікіх намаганняў.

## Перагледзьце ідэалы і мэты

Дэпрэсія можа быць адным з наступстваў імкнення да нерэальных мэтаў. Магчыма, вы будуеце жыццё паводле ідэалу, якія далёкія ад рэальнасці вашага жыцця.

Верагодна, вы адначасова хочаце стаць ідэальнай мамай, жонкай, менеджэрам ці наогул ідэальным чалавекам. Калі вы робіце шмат рухаў, моцна напружваецеся, каб дасягнуць ідэала, ваш арганізм зробіць так, каб вы не мітусіліся дарма. Напрыклад, захварэе на штосьці ці захандрыць.

Як папярэдзіць дэпрэсію:

1. Часцей гуляйце на свежым паветры.
2. Займайцеся фізічнай культурай.
3. Прымайце вітаміны.
4. Перагледзьце сістэму харчавання.
5. Высыпайцеся.
6. Акружыце сябе яркімі колерамі.
7. Пазбягайце адзіноты.
8. Азірніцеся – магчыма, камусьці патрэбная ваша дапамога і ўвага.

**По псіхалагічную дапамогу можна звярнуцца па тэлефоне (80176) 74-66-20, ці па адрасе: Маладзечна, вул. Таўлая, 4. Кансультацыя платная і ананімная.**

**Вольга МАЛАШКА**, псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва.

ГІСТОРЫЯ

# Як перажыла вайну дзяўчына з Валожына

## З успамінаў сястры Мікалая Махнача

**ВАЛОЖЫН. Пра тое, якім было жыццё ў час акупацыі для жанчын, як ратавалі адзін аднаго і якімі страхамі і клопатамі жылі ў час вайны.**

Пра жыццё ў час Другой сусветнай вайны распавядае сястра жаўнера арміі Андэрса **Мікалая Махнача Валянціна Слабодчыкава**, у дзявоцтве Махнач. Успаміны ў рэдакцыю перадала **Яўгенія Чаплінская** з вёскі Літва Маладзечанскага раёна.



Валянціна Слабодчыкава (Махнач) у 18 год, верасень 1943 года, Валожын.

Фота забяспечана Яўгеніяй ЧАПЛІНСКАЙ.

Калі брат Коля быў у 6–7 класе, мы вельмі любілі чытаць часопісы для дзяцей, дзе на першай старонцы апавядалі пра смешных Пата і Паташона і малявалі іх, і "Wędrowiec" з урыўкамі і апавяданнямі пра амерыканскіх індзейцаў, пра паляўнічага Буфала, цікавыя гісторыі з жыцця многіх вандроўнікаў. І калі хто-небудзь з нашых крэўных даваў нам "на цукеркі" 5–10 грошай, то мы куплялі гэтыя часопісы.

### Дзіцячыя забавы

Брат меў вялікую ахвоту да лоўлі рыбы. У нашай Валожынцы вады было летам недзе 10–20 см, цякла яна хутка і была даволі халоднай, нават спякотным днём. У ёй вадзіліся маленькія рыбкі, не памятаю іх назву, але самыя буйныя былі 10–12 см. Дно рэчкі было пясчанае, з рознымі каменьчыкамі. І рыбкі пад іх хаваліся. Вось Коля мог падоўгу стаяць босым у халоднай вадзе, чакаючы, пакуль рыбка супакоіцца, схаваўшыся пад каменем. Тады ён далонькамі з двух бакоў яе лавіў. Улоў быў 10–15 рыбак, а часам усяго нейкага паўдзясятка.

Калі ён меў столькі цярпення, каб злавіць рукамі некалькі малых рыбак, то, думаю, і пры рабоце па знішчэнні бомбаў і мін таксама быў уважлівы. Таму і абышлося без няшчасця.

Коля прыносіў улоў дадому і прасіў маму спячы, а сам браў кароўку на вяроўку – і ў поле.

Пасучы кароў, хлопцы часам збіраліся ў рове сярод поля, якое называлі "За зялёнай дарожкай". Там было крыху больш вольнага месца. Пастушкі навязвалі кароў, а самі садзіліся гуляць у карты, на пстрычкі. Здаралася, за гульнёй хлопцы забываліся на кароў. Сляпні і мухі надакучалі жывёлам, і яны часам вырывалі калочкі і нейпрыкмет заходзілі на суседскія нівы.

Вось у такі момант і заспеў кароў у шкодзе адзін з гаспадароў. Хлопцы кінуліся лавіць кожны сваю, але наша зайшла далей іншых, і гаспадар яе злавіў. Брат стаў прасіць прабачэння, але яму сказалі: "Аддам толькі бацьку. І не задарма. Няхай прынясе два злоты".

### Пакаранне

Два злотыя пры Польшчы – гэта былі вялікія грошы.

Увечары тата мусіў ісці па карову. Не памятаю, колькі яму давялося заплаціць, але вярнуўся ён вельмі незадаволены.

Тата ніколі нас не біў, але ставіў на калені. Вось і гэтым разам ён сказаў сыну: "На калені, і стой да раніцы".

Коля стаў у кут.

Павячэраўшы, бацькі ляглі спаць. Мама перад гэтым занесла паесці і брату, але той не ўзяў.

Уначы мама прачнулася і бачыць, што сын, сагнуўшыся, па-ранейшаму стаіць у куце на каленях. Яна да яго: "Сынок, уставай. Тата, напрацаваўшыся за дзень, забыўся табе сказаць, каб ты ішоў спаць".

"Не, мама, не ўстану. Тата справядліва пакараў мяне. Я вельмі быў вінаваты. Таму буду стаяць да раніцы".

### Знайшлі ў зямлі золата

Аднойчы ўвосень, аручы сваю ніву, наш тата знайшоў вузельчык з двума залатымі, яшчэ царскімі, чырвонцамі. Тата, зразумела, узрадаваўся, абмяняў іх на польскія злотыя і купіў новыя сані. Зімы тады былі суровыя і снежныя, і без саней было як без рук.

У нас была родзічка цётка Сачыха, удава, што жыла ў маленькім дамку на Палачанскай вуліцы. Побач была яўрэйская сядзіба, дзе сартавалі скупленае па вёсках рызьё. Там яна і падпрацоўвала за нейкія грошы.

Цётка мела некалькі курачак, і каб пракарміць іх, збірала каласкі на зжатых нівах, у асноўным, нашых і нашых родзічаў Грышчыкаў. І аднойчы яна, размаўляючы з маімі бацькамі, прызналася, што пару гадоў назад згубіла ўсе сваё ашчаджэнні – дзве залатоўкі.

"На нашай ніве, – тут жа ўдакладніў тата. – І я іх знайшоў. Здолею – вярну".

І пакуль тата жыў, сплачваў па частках гэты свой доўг. Ну а малако мы цётцы давалі потым увесь час, зразумела, бясплатна.

Пасля смерці таты мы з братам апранутыя былі даволі дрэнна. Як карову пасвіў Коля, то я пільнавала ў радні гусей. Калі ж я заставалася з каровай, то да радні пастушком ішоў брат. За гэта яны нас абувалі і апраналі.

### Пачалася вайна

У верасні 1939 года пачалася вайна з немцамі, а потым прыйшлі "тыя саветы". Усіх вучняў, якія раней вучыліся ў польскай школе, "адсадзілі" на год назад. Ніжняя школа стала расейскай, верхняя – беларускай. Мне было бліжэй да расейскай, туды і пайшла ў пяты клас.

Ніхто з мясцовых вучняў падручнікаў не меў. Іх не было ў продажы. Сшыткі ж былі яшчэ са старых запасаў, канфіскаваных у яўрэйскіх крамах.

У пачатку 1941 года з дзясятак, а можа, і болей, хлопцаў, пераважна былых гімназістаў, арыштавалі і вывезлі ў Сібір. І ніхто дакладна не ведаў, за што іх забралі. Потым пайшлі чуткі, быццам яны напісалі нейкі верш пра Сталіна ці папсавалі партрэт "правадыра". І нібыта выдаў іх настаўнік расейскай мовы, былы псаломшчык нашай царквы.

Брата забралі на лесараспрацоўкі зусім нечакана, адным днём. Таму мама толькі праз два дні пачала высвятляць, чаму яе адзінага сына-кармільца забралі. Ёй адказалі: "Падзякуй, што толькі на лесараспрацоўкі, а не ў далёкую Сібір".

21 чэрвеня мы атрымалі ад Колі ліст, дзе ён пісаў, што ў яго ўсё добра. Што ў Карэліі шмат рыбы, ды няма на чым яе смажыць. Таму прасіў, каб выслалі яму трохі сала.

А назаўтра наш Валожын ужо бамбілі, найбольш цэнтр.

На нашай ускраіне мястэчка мы ніякіх вайскоўцаў не бачылі, мабыць, яны з кашараў накіраваліся на захад.

### Малако для салдат

У панядзелак мама пайшла на пошту, каб запытацца, як можна паслаць пасылку. Але неўзабаве вярнулася дахаты і кажа: "Пошта разбітая. Савецкія сем'і збіраюцца ехаць на Менск". Адна жанчына з двума малымі, плачучы, прасіла прынесці ёй што-небудзь з яды.

Мы хутка знайшлі кошык, паклалі туды крыху бульбы, бохан хлеба, некалькі яечак, бутэльку малака і кавалак сала. Мама ўсё гэта хутка панесла на вуліцу, былую Нарутовіча. Вярнуўшыся, расказала: "Паспела. Жанчына з дзецьмі і валізамі ўсё яшчэ чакае, калі па яе заедзе машына. Дзякуючы, пацалавала мне рукі і ўсё плакала. Зайшла ў кватэру і вынесла вось гэтую сукенку і чаравікі, якія там заставаліся".

Сукенка была з чырвонага вельвету, яшчэ амаль новая, а чаравікі добра падношаныя. Але адно і другое тымі часамі магло спатрэбіцца.

Наступны дзень прайшоў спакойна. Я пасвіла ў полі карову. А ў сераду раніцай мама падаіла карову і, калі ішла з вядзерцам малака ад хлява, убачыла на верхнім канцы вуліцы некалькіх салдатаў. І намерылася пачаставаць іх сырадоем. Перацадзіўшы малако, наліла ў збаночак, узяла кубак і пачала падымацца пад гару.

Салдаты ўбачылі яе і пачалі крычаць, наставіўшы аўтаматы: "Хальт!" А мама, гледзячы пад ногі, каб не спатыкнуцца, гукае ім: "Сыночкі, я вам малачка свежанькага нясу". Мама была ўжо на палове шляху і тут на асабліва моцны крык падняла галаву і ўбачыла настаўленыя аўтаматы. Зразумела, што гэта немецкі дэсант.

Збаночак выпаў з рук, і мама хутчэй скацілася, чым збегла з гары.

Такое было першае спатканне з ворагам.

**Валянціна СЛАБОДЧЫКАВА (МАХНАЧ), Малдова.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**21 сакавіка.** 175 гадоў з дня нараджэння Францішка Бенядзікта Багушэвіча (псеўданім Мацей Бурачок, 1840 – 1900), беларускага паэта, празаіка, публіцыста, перакладчыка, грамадскага дзеяча, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, яе класіка. Гэта яму належаць словы: "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі".

***

**80 гадоў** з дня нараджэння (1935) Філарэта (у свеце Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч), праваслаўнага царкоўнага дзеяча, у 1978 – 2013 гг. Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

***

**22 сакавіка.** 95 гадоў з дня нараджэння Аляксея Пысіна (1920 – 1981), беларускага паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**23 сакавіка.** 150 гадоў з дня нараджэння Старога Уласа (сапраўднае прозвішча Уладзіслаў Сіві-Сівіцкі, 1865 – 1939), беларускага паэта, празаіка, збіральніка беларускага фальклору. Нарадзіўся ў Валожыне. Служыў кухарам, аб'ездчыкам, лясніччым. Жыў у вёсцы Варняны (цяпер Астравецкі раён), у Вільні. У 1910 годзе заснаваў школу пісьменнасці, у якой разам са сваімі дочкамі вучыў дзяцей грамаце. Дэбютаваў вершамі ў 1909 годзе ў "Нашай ніве". Аўтар парадыйнасатырычнага вершаванага апавядання "Тры зладзеі" (1912). Своеасаблівым летапісам працы і побыту сялянства з'яўляецца паэма "Год беларуса". Пахаваны ў Вільні на могілках Росы. На яго магіле паставілі дубовы крыж без надпісу. У Валожыне на доме па вуліцы Савецкай, 49 ёсць мемарыяльная дошка ў гонар самабытнага паэта-земляка Старога Уласа.

***

**120 гадоў** з дня нараджэння Васіля Сташэўскага (1895 – 1937), беларускага празаіка, драматурга. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у 1924 – Мінскі настаўніцкі інстытут. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. У радах Чырвонай Арміі на польска-савецкай вайне. Працаваў настаўнікам, адказным сакратаром літаб'яднання "Маладняк", аб'яднання "Полымя", у газеце "Савецкая Беларусь". Надрукаваў больш за 20 п'ес. У 1937 годзе рэпрэсаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, расстраляны.

***

**1918 год.** Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла Гродзеншчыну беларускай тэрыторыяй.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**




Лявон Васілевіч і ў сто гадоў цікавіцца тым, што адбываецца навокал. Слухае рэтра-песні і просіць у дачкі даць яму якую-небудзь работу.

# 100-гадовы юбіляр ні дня не можа без працы

**МАЛАДЗЕЧНА. Лявону Васілевічу 1 ліпеня споўніцца 100 гадоў. Калі яго дачка пачала клапаціцца пра замену пашпарта, пашпартыстка з Крывічоў вельмі здзівілася. Такога выпадку ў іх яшчэ не было.**

Лявон Васілевіч нарадзіўся ў 1915 годзе ў вёсцы Пузыры Мядзельскага раёна. Калі Лявону было пяць гадоў, у яго памерла маці. Бацька застаўся з пяцярымі дзецьмі на руках, але больш так і не ажаніўся.

Лявон Іосіфавіч успамінае, што ў той дзень, калі памерла маці, ён пабег на вуліцу сустракаць сваю цётку, сястру маці. Яна ў яго спыталася:

– Што ж ты цяпер рабіць будзеш, дзіцятка?

– Свістаць буду, – адказаў ёй хлопчык.

Далей успаміны адносяць Лявона Іосіфавіча ў той час, калі ён пайшоў у польскую школу. Скончыў толькі тры класы. Дзяцей у школе было шмат, прыходзілі з сямі навакольных вёсак. Вучыліся ў вялікім доме аднавяскоўца.

– Памятаю, што два разы на тыдзень у школу прыязджалі весці ўрокі то ксёндз, то бацюшка. Дык мы, тыя, хто праваслаўнай веры, на занятки ксяндза не хадзілі, прагульвалі.

Яшчэ ў памяці Лявона Васілевіча засталіся суровыя беларускія зімы 20-х гадоў.

– Памятаю, як бегаў да суседскага хлопчыка ўзімку басанож. Іх хата ад нашай за метраў сто была. А бацька майго сябра браў мяне на рукі і закідваў на печ. Як сёння помню, што ён картавіў і гаварыў так:

– Лезь, гвэйся на печы.

Адказваючы на пытанне, якім было яго дзяцінства, Лявон Іосіфавіч кажа:

– Як ува ўсіх у той час. Жылі са сваёй працы. Ганялі пасвіць гусей, авечак, коней. Працавалі па калейцы – гэта калі кожная хата па чарзе ганяла скаціну на пашу.

А выпадак, які здарыўся падчас пашы авечак, адбіўся на ўсім жыцці.

## Адганяў ваўка ножыкам і параніў нагу, якая баліць усё жыццё

Лявону Васілевічу было тады гадоў 12-13. Пасвіў авечак:

– Раптам адчуваю, што хтосьці дакрануўся да пляча. Паварочваю галаву і бачу ваўка. Ён прайшоў побач са мной і кінуўся да авечак.

Хлапчук Лявон не разгубіўся, дастаў ножычак і закрычаў на ўсю моц:

– Цю-ю-ю-ю-юг-а-а-а-а-а.

Але ножычак саскочыў і папаў у нагу. Відаць, у нагу трапіла інфекцыя, бо праз некаторы час яна спухла, давялося рабіць аперацыю.

– На сон рабілі, – успамінае Лявон Васілевіч. – Наркоз, значыць.

І ўсё жыццё нага перыядамі давала пра сябе знаць. Праз яе і ў армію падчас Вялікай Айчыннай вайны не забралі.

А воўк тады збег, так і не прыхапіўшы з сабой ніводнай авечкі.

## У працоўнай кніжцы 365 працадзён у год

Перад вайной Лявон Васілевіч паехаў працаваць у Беласток. Там будавалі чыгунку. Успамінае, што плацілі многа, але грошы не траціў, усе перадаваў дамоў. Калі пачалася вайна, вымушаны былі вярнуцца. Ішлі з Беластока да Мядзела пешшу.

Чатыры гады жылі пад немцамі. Лявон Іосіфавіч успамінае, што іх немцы не крыўдзілі.

Пасля вайны было жыццё, напоўненае працай і клопатамі. Кім толькі не давялося працаваць Лявону Васілевічу за сваё доўгае жыццё. Ён быў і жывёлагадоўцам, і лазеншчыкам, і будаўніком, і даяром. Доўгі час вазіў малако.

Дачка Лявона Васілевіча Соф'я Лявонаўна паказвае працоўную кніжку калгасніка. Цягам пяці гадоў, ад 1950 да 1955, працаваў без грошай. У ёй толькі пазначана, што за год выдавалі збожжа ці бульбу.

Першы заробак пазначаны ў кніжцы толькі ў 1956 годзе. За год Лявону Васілевічу заплацілі 1480 рублёў.

– Старымі грашыма, у 60-я нуль адкінулі. І заробак стаў 118 рублёў за год.

Ад 1957-га, цягам амаль 10 год, у працоўнай кніжцы Лявона Васілевіча пазначана, што ён працаваў 365-366 дзён у год.

Гэта значыць, што без адпачынку, без выхадных штодзень прыходзіў на працу – даглядаць калгасных цялят.

– Ім жа не скажаш, што ў цябе выхадны ці баліць нешта. Яны ж есці хочуць.

Адносіны да калгаснай гаспадаркі ў Лявона Васілевіча былі неабыякавыя.

Улетку штодзень уставаў у пяць раніцы, бо трэба было накасіць калгасным цялятам "зялёнкі". Каб і яны прысмакаў паелі.

## За год калоў 40 свіней

Акрамя працы ў калгасе, была і свая гаспадарка, свая сям'я.

У сям'і было двое дзяцей. Але калі ў сястры Лявона Іосіфавіча памёр муж, клопаты па яе гаспадарцы Лявон Іосіфавіч таксама ўзяў на сябе.

– А няўжо ж. У вёсцы ж цяжка бабе адной. І накасіць свінням ці карове, і сенавадь, і грады садзіць.

А яшчэ Лявон Васілевіч быў адзіным чалавекам, якому ўся вёска давярала калоць свіней.

– Бывала за год свіней 40 закалоць даводзілася. А што? Затое і нап'ешся заўсёды, і пад'ясі ў гасцях, ды яшчэ дадому сумку мяса і сала дадуць.

Ад 1975 года Лявон Васілевіч – пенсіянер. Яшчэ 16 год пасля выхаду на пенсію працаваў у калгасе.

## У 90 год з канём на пашу – толькі верхам

Соф'я Лявонаўна распавядае пра тое, што бацька ўсё жыццё працаваў з жывёламі і вельмі іх любіў.

Нават калі забралі яго ў Маладзечна, ён з сабой узяў котку, не захацеў пакідаць у вёсцы, каб яна прапала.

– А як бацька нас здзівіў гадоў 10 таму! – ускліквае Соф'я Лявонаўна. – Да 90 гадоў ён жыў у вёсцы, трымаў каня Орліка. Аднойчы мы прыязджаем да яго, кажам, што трэба адвесці каня на поле. Ён нам у адказ: "Я сам!" Падвёў каня да слупочка каля плота, узлез на гэты слупок, закінуў нагу і сеў на каня. І пагнаў яго на пашу верхам.

І цяпер, працягвае Соф'я Лявонаўна, бацька просіць даць яму нейкую працу.

– Ён і фасолю перабярэ, і іншую не цяжкую работу робіць.

Дома Лявон Іосіфавіч падоўгу стаіць ля акна, расказвае, што бачыць на вуліцы. Слухае радыё. Любімая радыёперадача тая, дзе спяваюць старыя песні.

**Паважаныя чытачы! Вы можаце праз нашу газету павіншаваць Лявона Васілевіча са 100-гадовым юбілеем, можаце даслаць паштоўку на наш адрас. Мы перададзім вашы віншаванні юбіляру.**

А на лета яны разам з дачкой едуць на лецішча. Туды ж прыязджаюць трое ўнукаў і чацвёра праўнукаў. У Лявона Іосіфавіча заўсёды за сямейным сталом пачэснае месца.

– Праўнук бярэ за руку і вядзе да стала. Кажа: "Дзядуля, пайшлі есці", – усміхаецца Лявон Іосіфавіч.

Гаворачы пра сакрэты даўгалецця, Лявон Іосіфавіч кажа, што за ўсё жыццё скурыў толькі дзве пачкі "Беламору" і ні разу не быў у стаматолага.

– Трэба жыць! – смяецца Лявон Іосіфавіч і паказвае адзіны зуб. – Трэба жыць.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

ЗДАРОЎЕ

# У дыягназ "туберкулёз" хворыя не могуць паверыць

**МАЛАДЗЕЧНА. У наш час многія лічаць, што хвароба на туберкулёз засталася ў мінулым, а калі бачаць надпіс "доктар-фтызіятр", не могуць яго расшыфраваць. На жаль, гэта хвароба нікуды не знікла і дагэтуль застаецца сур'ёзнай праблемай, на якую дзяржава выдаткоўвае немалыя сродкі.**

24 сакавіка 1882 года нямецкі мікрабіёлаг Роберт Кох на пасяджэнні навуковай супольнасці абвясціў аб адкрыцці новай бактэрыі. З таго часу і сёння ўзбуджальніка туберкулёзу называюць бацылай, ці палачкай Коха.

Яна ёсць у арганізме практычна кожнага з нас. Але аднойчы нейкі фактар ці іх сукупнасць прыводзяць да яе абуджэння, і ўзнікае хвароба. Бактэрыя аддае перавагу лёгкім, але можа актывізавацца ў любым органе: костках і суставах, вачах, нырках, лімфатычных вузлах. Пускавым фактарам можа быць хранічнае пераахаладжэнне, моцны стрэс, траўма, кантакт з туберкулёзным хворым. У групе рызыкі – людзі з аслабленым імунітэтам, хранічнымі захворваннямі, курыльшчыкі, дзеці і падлеткі.

**24 сакавіка Сусветны дзень барацьбы з туберкулёзам.**

Раней лічылася, што на туберкулёз хварэюць сацыяльна ўразлівыя людзі. У наш час хвароба можа праявіцца ў людзей розных слаёў насельніцтва. Усё часцей сустракаюцца студэнты, маладыя мамы, спартсмены.

Каварнасць гэтай хваробы – у адсутнасці сімптомаў. Вельмі рэдка хворы скардзіцца на кашаль, тэмпературу, боль у грудзях, патлівасць, пахудзенне. Звычайна туберкулёз знаходзяць падчас прафілактычнага агляду. А скаргі з'яўляюцца, калі працэс хваробы зайшоў далёка.

У 2012 годзе 69% хворых на лёгачны туберкулёз знайшлі пры планавым праходжанні флюараграфіі, у 2013 – 86%, а ў 2014 – 88%.

Калі хворы даведваецца пра дыягназ, то не можа паверыць – ён жа выдатна сябе адчувае! І ніколі з хворымі не кантактаваў.

Шлях перадачы туберкулёзу – паветрана-крапельны: нехта кашляе, чхае і смяецца, а іншы ўдыхае гэта паветра. Палачка пастаянна вакол нас. Многія лічаць, што прафілактычны агляд патрэбны дзяржаве, а не ім.

Нядаўна на прыёме быў чалавек 60-і год. Застарэлы распаўсюджаны туберкулёз, у лёгкіх няма жывога месца, мноства буйных поласцяў распаду. Прыйшоў да доктара з кашлем і тэмпературай. Флюараграфію апошні раз праходзіў 20 год таму!

Туберкулёз развіваецца марудна – месяцамі, гадамі, але няўхільна. І гэтак жа марудна лечыцца.

Асноўная сучасная праблема – устойлівасць бактэрыі да супрацьтуберкулёзных прэпаратаў. Яна абараняецца ад нас лепш, чым мы ад яе. Імкліва муціруе, шукае механізмы абароны, хаваецца ад дзеяння лекаў, ідзе глыбока ў тканкі, куды не могуць дабрацца лекі. Для Маладзечанскага раёна праблема множнай лекавай устойлівасці вельмі актуальная, таму што каля горада месціцца бальніца для лячэння пацыентаў з гэтай формай туберкулёзу.

**У Маладзечне ў 2012 годзе выявілі 56 хворых на туберкулёз, у 2013 – 57, у 2014 – 37. Актыўная форма туберкулёзу зарэгістраваная ў 135 чалавек, з іх 64 маюць множную лекавую ўстойлівасць. Сярод хворых дзяцей няма. Усё часцей здараюцца выпадкі, калі хворы на туберкулёз мае ВІЧ-інфекцыю. Адзін з такіх хворых летась змог вылечыцца ад туберкулёзу.**

Звычайны курс лячэння цягнецца каля сямі месяцаў. Устойлівую форму лечаць мінімум 20 месяцаў шасцю–дзесяццю прэпаратамі моцнага дзеяння, каля шасці-васьмі месяцаў неабходна ляжаць у бальніцы.

Вельмі важна лячыцца паводле распрацаванай схемы. Як толькі хворы кідае курс, недабітай бактэрыі нічога не замінае муціраваць. Сучасны туберкулёз усё больш небяспечны. Калі раней хворыя жылі дзесяцігоддзямі, сёння могуць згараць за тры-пяць год.

Ніхто не застрахаваны ад туберкулёзу. Нявыяўленыя хворыя пастаянна ёсць сярод нас. Хвароба звычайна не выяўляе сябе. Сёння для нас найпрасцейшы спосаб даведацца пра хваробу – прайсці флюараграфію.

**Паліна ГОРАВА, доктар-фтызіятр (участковая) Маладзечанскага туберкулёзнага дыспансера.**



Фота забяспечана Кацярынай МІХАЙЛОЎСКАЙ.

Сям'я Міхайлоўскіх: злева Даніла, Андрэй Міхайлоўскі трымае на руках дачку Кіру, побач Кацярына Міхайлоўская з сынам Ігнатам, справа стаіць Ілля, ён трымае на руках Мацвея.

СЯМ'Я

# Дзеці – лепшыя знакі маёй любові

## Маці пяцярых дзяцей Кацярына Міхайлоўская атрымала ордэн Маці

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Міжнароднага жаночага дня ордэн Маці ў Мінскай вобласці атрымалі сем шматдзетных жанчын. У Маладзечанскім раёне гэта Людміла Емяльянава, Святлана Калмыкова і Кацярына Міхайлоўская.**

Раніца шматдзетнай мамы Кацярыны Міхайлоўскай пачынаецца з кухні. Спачатку гатуе сняданак для сям'і, пасля адпраўляе старэйшага сына на вучобу ў Вілейку, затым мужа на работу, дзяцей – на вучобу.

### Думала, што нараджу толькі адно дзіця

У яе пяць дзяцей. Самаму старэйшаму, **Іллі**, 16 гадоў, ён навучэнец Вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа, вучыцца на повара-кулінара. 12-гадовы **Даніла** і 9-гадовы **Ігнат** вучацца ў сярэдняй школы №14. **Мацвею** чатыры гады, ён ходзіць у дзіцячы садок. Самаму маленькаму дзіцяці, **Кіры**, год і сем месяцаў. Сям'я чакае яшчэ адно дзіця, мяркуюць, што гэта будзе дзяўчынка.

Кацярына вырасла ў шматдзетнай сям'і. Была самай старэйшай, у яе было тры сястры і адзін брат. Аднак нягледзячы на гэта хацела толькі адно дзіця.

– У маладосці думала, што ў мяне будзе толькі адно дзіця, – расказвае Кацярына. – Пасля першых родаў было так многа розных уражанняў, упэўнілася, што аднаго дзіцяці хопіць. І ўжо калі Ілля стаў падрастаць, зразумела, што хачу яшчэ адно дзіця. Праз чатыры гады нарадзіла Данілу.

### Двое дзяцей нарадзіла для сябе, іншых – добраму мужу

Шматдзетная мама лічыць, што першых двое дзяцей жанчына нараджае для сябе, каб сцвердзіцца, адчуць сябе сапраўднай жанчынай, астатніх – для любімага мужа, добрага бацькі.

– Калі ў сям'і ёсць лад, узаемаразуменне паміж мужам і жонкай, калі муж гатовы дапамагаць і рабіць усё магчымае для дабрабыту сям'і, то жанчына гатовая нараджаць і выхоўваць дзяцей ад любімага мужчыны, – дзеліцца шматдзетная мама. – Калі ж жанчына не адчувае сябе як за каменнай сцяной, натуральна, што яна не будзе імкнуцца заводзіць шматдзетную сям'ю.

Па гаспадарцы Кацярыне дапамагае муж **Андрэй** і дзеці.

– Як і ў іншых сем'ях, дзеці маюць свае абавязкі: вынесці смецце, дапамагчы прыбраць у кватэры, памыць посуд. Старэйшы Ілля раніцай адводзіць Мацвея ў дзіцячы садок, вечарам забірае.

### Не хапае часу на спрэчкі

З мужам Кацярына пазнаёмілася ў сацыяльных сетках. Малады чалавек "пастукаўся" да яе ў сябры, дадала, пачалі перапісвацца. Праз два месяцы сяброўства ў інтэрнэце вырашылі сустрэцца. Праз чатыры месяцы знаёмства ажаніліся.

Жанчына расказвае, што доўга не прыходзілася прыцірацца характарамі з мужам, калі ажаніліся. А цяпер дакладна не хапае часу на спрэчкі, ёсць больш значныя турботы.

### Трохпакаёвая кватэра на сем чалавек

Кацярына лічыць, калі людзі вырашылі стварыць сям'ю, то важна, каб яны разлічвалі на свае сілы, адзін на аднаго, а не на дапамогу бацькоў, дзяржавы.

– Гэту кватэру пабудавалі па льготным крэдыце, – расказвае жанчына. – Яна прасторная, аднак хацелі б пабудаваць дом, каб у кожнага быў свой куток. Праблема ў тым, што ўчастак могуць даць, аднак нам не хопіць грошай, каб дастойна жыць і займацца будаўніцтвам. Мужу прыйдзецца і дома не паказвацца, каб забяспечыць годнае жыццё для сваёй сям'і.

Таму жывуць у трохпакаёвай кватэры ўсемярых, хутка іх будзе восем.

### Шмат дзяцей – і як усё паспявае

– Многія знаёмыя дзівяцца, як усё паспяваю, – расказвае Кацярына. – Гавораць, што вельмі добра выглядаю, не скажаш, што пяцёра дзяцей. Аднак не люблю такіх размоў. Калі ёсць імкненне і жаданне, то ўсё можна паспець і не быць папялушкай-мурзай.

Жанчына заўважае, што дзеці і муж – гэта гарантыя добрага настрою і адпаведнага знешняга выгляду.

Да ордэна Маці яе сям'я аднеслася спакойна.

– Гэта не самая высокая адзнака, якую я атрымала, – гаворыць жанчына. – Тым больш, што ў сям'і ўжо ведалі, што атрымаю такую ўзнагароду. Дзеці – вось хто знакі маёй любові і пяшчоты.

Самы прыемны падарунак да 8 Сакавіка жанчына атрымала ад дзяцей – гэта малюнкі, вялікія букеты і торт.

Маці Кацярыны, **Любоў Субач**, таксама мае ордэн Маці.

**Галіна СІНІЦА.**

ХАКЕЙ

# У таварыскім матчы шайбы закідвалі седзячы

**МАЛАДЗЕЧНА. Хакейны клуб "Дынама-Маладзечна" завяршыў сезон таварыскай сустрэчай з аматарскай камандай "Лядовыя пінгвіны".**



Гэта была таварыская сустрэча. Хакеісты забаўляліся, як маглі. Сядзіць Андрэй Філічкін, за ім стаіць Мікіта Феакцістаў.

Фота hcdinamo.by.

Да апошняй секунды матча не было ясна, хто ж атрымае перамогу. У выніку перамога не дасталася нікому – фінальная сірэна зафіксавала мірны лік на табло – 15:15.

У суботнюю раніцу ў Лядовым палацы Маладзечна было шматлюдна, шумна і па-сапраўднаму святочна. У сяброўскім матчы клюшкі скрыжавалі "зубры" і "пінгвіны".

Перад сустрэчай ужо па традыцыі беларускі гімн выканаў **Данііл Савеня**.

З першых секунд гульні абедзве каманды ўключылі такі тэмп, што узнікла толькі адно пытанне – ці таварыская гэта гульня?

Вароты "бела-сініх" абаранялі **Мікіта Волес**, у нападзенні – **Дзмітры Краўчанка**, **Павел Мікульчык** і **Сяргей Шабанаў**. Таксама ў ролі палявога гульца паспрабаваў свае сілы і галкіпер **Павел Шэгала**.

Некалькі "зуброў" на адзін матч часова сталі "пінгвінамі". Гэта **Максім Мамíканьянц**, **Ілля Зелянко**, **Вячаслаў Макрыцкі**, **Ірэк Хафізаў** і адміністратар дынамаўскай каманды **Ягор Кушнярэвіч**. Сваёй камандзе яны не здрадзілі і знаходзіліся на пляцоўцы ў трэніровачнай дынамаўскай форме.

Настаўнік "зуброў" быў у выдатнай форме. Не прайшло і дзесяці стартавых хвілін, як Дзмітры Краўчанка аформіў хэт-трык.

У перапынках сустрэчы ўсе ахвотныя маглі ўзяць аўтограф і зрабіць сэлфі з дынамаўцамі. А пакуль хакеісты "зуброў" знаходзіліся на лаўцы, яны адказвалі на пытанні заўзятараў.

Некаторыя, напрыклад, цікавіліся, якім шампунем мые галаву **Станіслаў Лапачук**. Нападаючы адказаў шчыра, што не ведае.

У другім перыядзе каманды працягнулі забаўляць заўзятараў. Так **Андрэй Філічкін** выразаўшы выканаць буліт пры дапамозе крэсла і фізічнай сілы **Мікіты Феакцістава** – шайба пасля дакладнага кідка апынулася ў сетцы варот.

Пасля адбыўся і гучны трансфер: **Багдан Зазон** перайшоў у стан "Лядовых пінгвінаў". І пасля гэтага пабіўся з **Яўгенам Лявонавым**. Праўда, бойка больш нагадвала хакейны танец.

Да заключнай трэці паядынка "пінгвіны" добра падрыхтаваліся. У канцоўцы, калі "пінгвінам" трэба было адыгрывацца, трэнерскі штаб сапернікаў дынамаўцаў вырашыў зрабіць сюрпрыз і выпусціў на пляцоўку ўсю каманду. Як і такога парушэння не ўбачыў суддзя, застаецца пытаннем.

Увогуле, пакуль рэферы і "зубры" апамяталіся, лік у матчы ўжо стаў роўным. На тым і завяршылі – 15:15. Не абышлося ў матчы і без іншых сюрпрызаў.

Пасля матча Данііл Савеня не без дапамогі Андрэя Філічкіна і Багдана Зазона ўпершыню ў сваім жыцці пакатаўся на каньках, патрымаў клюшку і нават навучыўся рабіць кідкі. Затым распытаў Андрэя аб хакейнай экіпіроўцы і з цікаўнасцю абмацаў усю гульнявую форму абаронцы.

На гэтым усё – дэбютны сезон для "Дынама-Маладзечна" скончаны. Ужо ў панядзелак "бела-сінія" пачнуць трэніровачны збор на "Мінск-арэне".

**Паводле hcdinamo.by.**



Фота sport.tut.by.

Адзін з мінулагодніх чэмпіянатаў. На здымку – зборная Аргенціны.

ФУТЗАЛА

# Бразільцы ў горадзе, або Да чэмпіянату па футзале застаўся месяц

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 17 да 25 красавіка адразу ў пяці гарадах Беларусі будзе праходзіць галоўная спартыўная падзея 2015 года – чэмпіянат свету па футзале. Маладзечна прыме дзве гульні 18-19 красавіка.**

Правы правесці ўжо 11-ы па ліку чэмпіянат свету Беларусь заваявала ў мінулым годзе, і гэта права было здабытае невыпадкова: наша краіна ўжо прымала чэмпіянат Еўропы 2004 і 2012 гадоў. Больш за тое, нацыянальная зборная Беларусі – чэмпіёны Еўропы 2014 года, бронзавыя прызёры Кубка свету 2007 года і чэмпіянату Еўропы 2008 года.

Акрамя нашай зборнай, за медалі чэмпіянату свету будуць змагацца зборныя Калумбіі, Парагвая, Аргенціны, Уругвая, Венесуэлы, Бразіліі, Расіі, Чэхіі, Славакіі, Бельгіі, Нарвегіі, Аўстраліі, Марока, Кыргызстана і Кюрасаа.

У Маладзечна завітаюць каманды Бразіліі, Аўстраліі, Бельгіі і Марока.

Зборная Беларусі ж будзе змагацца з камандамі з Уругвая, Бразіліі і Аўстраліі.

Гістарычны для футзальнага жыцця нашай краіны матч Беларусь –Бразілія стане яшчэ і матчам адкрыцця чэмпіянату і адбудзецца 17 красавіка 2015 года на "Мінск-Арэне".

Бразільцы ў футболе, футзале, міні-футболе – гэта гарантыя відовішчнасці, гэта магчымасць паглядзець на прадстаўнікоў краіны, якая ў свой час не прайгравала на высокім футзальным узроўні амаль тысячу матчаў запар!

Сам трэнер зборнай Бразіліі **Даніэль Касціла** адзначае, што Беларусь з'яўляецца адным з фаварытаў чэмпіянату, які прэтэндуе на медалі, а сам матч са зборнай гаспадароў турніру выклікае нямала боязі, таму што падтрымка гледачоў і ўзровень гульні беларускай каманды могуць прадвызначыць вынік матча.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мудрагелісты рэгламент

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ўпершыню прадстаўнік рэгіёна прыняў удзел у экстралізе беларускага хакея. Каманда "Дынама" заняла шостае месца ў рэгулярным чэмпіянаце і прыняла ўдзел у розыгрышы плэй-оф, дзе на стадыі чвэрцьфіналу саступіла мінскаму "Юнацтву".**

Сістэма спаборніцтваў нязвыклая для нашых балельшчыкаў, таму мае сэнс узгадаць некаторыя дэталі. Усяго выступілі адзінаццаць клубаў. З верасня і да сярэдзіны студзеня яны згулялі ў чатыры кругі, правёўшы ў суме 40 матчаў. У выніку турнірная табліца прыняла наступны выгляд (гл. табліцу 1).

Зазначым, што за перамогу ў асноўны час даюцца тры ачкі. Нічыіх быць не можа, і за перамогу ў дадатковы час альбо па булітах даюцца два ачкі, а за паражэнне тут даецца адно ачко.

Далей каманды былі разбітыя на мацнейшую шасцёрку і слабейшую пяцёрку. Маладзечанцы радавалі сваіх прыхільнікаў, бо замацаваліся ў верхняй частцы табліцы. На працягу студзеня і лютага каманды ў мацнейшай і слабейшай групах згулялі кожны з кожным яшчэ па тры разы і сталі мець у суме наступную колькасць ачкоў (гл. табліцу 2).

У апошнія дні лютага пачаўся розыгрыш плэй-оф. Першы калектыў гуляў з восьмым, другі – з сёмым, трэці – з шостым, чацверты – з пятым. На гэтай стадыі трэба было атрымаць тры перамогі над сапернікам. Нашым землякам дастаўся прадзюнік са сталіцы. У першай гульні на "Чыжоўцы-арэне" ўдалося выйграць 4:3, другую гульню там саступілі 2:9, потым дома двойчы саступілі 2:6 і 1:6.

Ужо скончыліся і паўфінальная серыі, якія доўжыліся да чатырох перамог аднаго з сапернікаў. Якраз сёння, 20 сакавіка, распачынаецца фінальная серыя таксама да чатырох перамог. У ёй сыдуцца салігорскі "Шахцёр" і нам добра знаёмае мінскае "Юнацтва".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табліца 1**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Шахцёр (Салігорск) | 98 |
| 2 | Гомель | 91 |
| 3 | Юнацтва (Мінск) | 84 |
| 4 | Металург (Жлобін) | 78 |
| 5 | Нёман (Гродна) | 74 |
| **6** | **Дынама (Маладзечна)** | **62** |
| 7 | Хімік-СКА (Наваполацк) | 45 |
| 8 | Віцебск | 44 |
| 9 | Брэст | 31 |
| 10 | Ліда | 28 |
| 11 | Магілёў | 25 |

**Табліца 2**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Шахцёр (Салігорск) | 123 |
| 2 | Гомель | 119 |
| 3 | Юнацтва (Мінск) | 112 |
| 4 | Нёман (Гродна) | 103 |
| 5 | Металург (Жлобін) | 88 |
| **6** | **Дынама (Маладзечна)** | **77** |
| 7 | Віцебск | 69 |
| 8 | Хімік-СКА (Наваполацк) | 68 |
| 9 | Ліда | 50 |
| 10 | Брэст | 41 |
| 11 | Магілёў | 35 |

ШАХМАТЫ

# Самыя моцныя шахматысты – маладзечанцы

**ВІЛЕЙКА. У цэнтры фізічнага развіцця "Сатурн" прайшлі камандныя спаборніцтвы па шахматах і шашках у межах абласной спартакіяды.**

У спаборніцтвах узялі ўдзел каманды Вілейскага, Лагойскага, Мінскага, Маладзечанскага і Мядзельскага раёнаў.

У шахматыстаў па-за канкурэнцыяй была каманда з Маладзечна. За каманду гулялі **Арцём Скакоўскі** (СШ №4), **Арцём Нехаёнак** (гімназія №10), **Сяргей Юшкевіч** (гімназія №6) і **Вольга Трус** (гімназія №7).

Маладзечанцы выйшлі ў фінал спартакіяды.

Віляйчане – адзіная каманда, якая не дазволіла пераможцам абыграць сябе "пад ноль".

Юныя шахматысты з Вілейкі перайгралі ўсіх астатніх сапернікаў і занялі другое месца. Мінчане сталі трэцімі, валожынцы – чацвертымі, мядзельцы – пятымі.

У шашыстаў вынікі больш сціплыя. Маладзечанцы ўступілі камандзе з Мінска і занялі другое месца. Шашысты з Валожына занялі трэцяе месца, з Вілейкі – на чацвертым, з Мядзела – на пятым. У камандзе Валожынскага раёна трэба адзначыць дзвюх дзяўчат: **Наталлю Саўчук** і **Гражыну Амельяновіч**. Яны перамаглі сваіх саперніц у дзевяці партыях з дзесяці.

**Уладзіслаў ВАЗЯНЧУК, галоўны суддзя спаборніцтваў.**

# Глядзіце на вясенніх канікулах

## У кінатэатры "Радзіма" ў Маладзечне

Анімацыя, камедыя, прыгоды, сямейны **"Дзінамама"** (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
23 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Фэнтэзі **"12 месяцаў. Новая казка"** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
24 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды, фэнтэзі, сямейны **"Бабай"** (Украіна, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 10 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі **"За трыдзевяць зямель"** (Данія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 10 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды, фэнтэзі, камедыя **"Астэрыкс: Землі багоў"** (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"Прыгоды маленькіх італьянцаў"** (Расія, Італія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 10 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

Вясеннія канікулы ў школьнікаў пачынаюцца 23 сакавіка.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў"** (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
25 сакавіка, серада, – у 11:00

**"Кошкі-Мышкі"** (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
27 сакавіка, пятніца, – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
31 сакавіка, аўторак, – у 19:00

E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Доктар Айбаліт"** (казка-прыгода), *В.Карастылёў*
22 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27**
УНП 600136804

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 4 | 3 | | | | | |
| | | | | | | | | 3 |
| 9 | | | | 6 | | 4 | 7 | 5 |
| 2 | | | | | | | 9 | |
| | | 5 | 8 | | 2 | 1 | | |
| | 1 | | | | | | | 4 |
| 8 | 9 | 7 | | 4 | | | | 2 |
| 6 | | | | | | | | |
| | | | | | 5 | 7 | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі **"12 месяцаў. Новая казка"** (Расія, 2014)
23 сакавіка – у 14:00
25 сакавіка – у 16:30
26 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды **"Звярыны атрад"** (3D, Італія, 2015)
21 сакавіка – у 12:30
22 сакавіка – у 14:30 (30 000 рублёў)
24 сакавіка – у 14:30 (25 000 рублёў)
25 сакавіка – у 18:30 (30 000 рублёў)

Камедыя **"Ёлкі махнатыя"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 сакавіка – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды **"Папялушка"** (ЗША, 2015)
21 сакавіка – у 14:30
22 сакавіка – у 12:00 (25 000 рублёў)
23 сакавіка – у 16:00
25 сакавіка – у 14:00 (20 000 рублёў)

Камедыйная меладрама, крымінал **"Фокус"** (ЗША, 2015, з 16 год)
20 сакавіка – у 19:30
22 сакавіка – у 21:30
23 сакавіка – у 18:30
24 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер **"Робат па імені Чапі"** (ЗША, Мексіка, 2014, з 16 год)
21 сакавіка – у 19:30
22 сакавіка – у 16:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Дывергент, глава 2: Інсургент"** (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
20, 21 сакавіка – у 17:00 (55 000 рублёў)
20, 21 сакавіка – у 22:00 (60 000 рублёў)
22 сакавіка – у 19:00
23, 25 сакавіка – у 21:00
24, 26 сакавіка – у 18:30 (55 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя, фэнтэзі **"Таямніца Сухаравай вежы.Чарадзей раўнавагі"** (3D, Расія, 2015)
26 сакавіка – у 16:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, фэнтэзі **"Прывід"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, камедыя, прыгоды, сямейны **"Дзінамама"** (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012)
21 сакавіка – у 14:30
22 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды **"Таямніца цёмнага пакоя"** (Расія, 2014)
21 сакавіка – у 14:00
22 сакавіка – у 17:00 (20 000 рублёў)
23 сакавіка – у 15:00 (15 000 рублёў)

Анімацыя, прыгоды, фэнтэзі, камедыя **"Астэрыкс: Землі багоў"** (Францыя, 2014)
24, 26 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды, фэнтэзі, сямейны **"Бабай"** (Украіна, 2014)
25 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Меладрама **"Прышпіліце рамяні"** (Італія, 2014, з 16 год)
20 сакавіка – у 19:00
21 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Гісторыка-прыгодніцкі **"Дзяржаўная мяжа. Афганская пастка. Фільм дзясяты"** (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
20 сакавіка – у 16:30 (15 000 рублёў)
22 сакавіка – у 18:30
25 сакавіка – у 19:00 (20 000 рублёў)

Камедыя, крымінал **"Воўк з Уол-стрыт"** (ЗША, 2013, з 18 год)
22 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, меладрама **"Хоць раз у жыцці"** (ЗША, 2013, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
20, 23 сакавіка – у 21:30
21 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер **"Паветраны маршал"** (Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24, 26 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік **"Пампеі"** (Канада, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя **"Горка 2"** (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 сакавіка – у 18:30
22 сакавіка – у 17:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Фэнтэзі **"Ваўкі"** (Францыя, Канада, з 16 год)
20 сакавіка – у 20:00
21, 22 сакавіка – у 19:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя **"Альфа і Амега. Іклатая братва"** (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
21 сакавіка – у 13:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Прыгоды **"Дзяржаўная мяжа. Афганская пастка"** (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21 сакавіка – у 17:00
25, 26 сакавіка – у 19:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Прыгоды **"Схватка"** (Беларусь, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 19:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя **"Клуб Вінкс: Тайна марской бездані"** (Італія, без узроставых абмежаванняў)
22 сакавіка – у 13:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя **"Весь дык сяброўка"** (Італія, з 16 год)
25, 26 сакавіка – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастыка, баявік **"Дывергент, глава 2: Інсургент"** (3D, ЗША, з 16 год)
20 сакавіка – у 18:00
21 сакавіка – у 20:30
22 сакавіка – у 16:00, 20:30
25 сакавіка – у 17:30, 20:00
26 сакавіка – у 20:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Трылер, крымінал, драма **"Рабаванне па-амерыканску"** (2D, ЗША, Расія, з 16 год)
20 сакавіка – у 20:30
21 сакавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды **"Звярыны атрад"** (3D, Італія)
21, 22 сакавіка – у 12:00
25 сакавіка – у 13:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Фэнтэзі **"12 месяцаў. Новая казка"** (2D, Расія)
21, 22 сакавіка – у 14:00
26 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Фэнтэзі **"12 месяцаў. Новая казка"** (2D, Расія)
14 сакавіка – у 16:00
15 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды **"Папялушка"** (2D, ЗША)
21 сакавіка – у 16:00
22 сакавіка – у 18:30
25 сакавіка – у 15:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі **"Таямніца Сухаравай вежы. Чарадзей раўнавагі"** (3D, Расія)
26 сакавіка – у 16:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі **"Прывід"** (2D, Расія)
26 сакавіка – у 18:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## ГАРАСКОП

**20-26 САКАВІКА**

**Авен**. Не забывайце, што напалеонаўскія планы – гэта добра, але не ўсе Напалеоны добра завяршылі сваю кар'еру.

**Цялец**. Вы захопленыя работай, за ўсё бераецеся з азартам. У вас шмат энергіі і жыццёвых сіл, што дазваляе вам насычана праводзіць і вольны час. Прыглядзьцеся да прадстаўніка Рыб, у вас цудоўная сумяшчальнасць.

**Блізняты**. Добры час для генеральнай уборкі, дзякуючы якой вы не толькі палепшыце ўмовы жыцця, але і знойдзеце даўно і незваротна зніклую рэч.

**Рак**. Вы, магчыма, сустрэнеце чалавека, знаёмства з якім прынясе вам мора перажыванняў. Але няхай лепш сэрца замірае ад кахання, чым роўна б'ецца ад суму.

**Леў**. Будзьце велікадушныя, прыміце знакі ўвагі ад каханага чалавека, нават калі вы пасварыліся. Проста рабіце выгляд, што ніякага розначалосся не было. Кантралюйце свае эмоцыі і не дазваляйце ўспышак гневу.

**Дзева**. Ва ўласным жыцці ўсё будзе цудоўна, калі толькі вы не станеце прыдзірацца па дробязях. Каханы чалавек – ваш саюзнік, а не вораг, з якім трэба змагацца.

**Шалі**. Планы на гэтых днях павінны быць рэалістычнымі, каб яны ажыццявіліся. Не варта лунаць у аблоках і хацець усяго і адразу.

**Скарпіён**. Вам добра было б запісацца ў басейн ці трэнажорную залу. Працаваць над фігурай усё роўна прыйдзецца, а цяпер вы можаце знайсці аднадумцаў ці там пазнаёміцца з цікавымі людзьмі.

**Стралец**. Захоўвайце правілы бяспекі – зоркі вас абараняюць, але гэта не азначае, што трэба беспадстаўна рызыкаваць сабой і выпрабоўваць трываласць гэтай абароны.

**Казярог**. Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць.

**Вадалей**. Вы балансуеце паміж сямейным жыццём і адзінотай, бо побач з вамі не ідэал. Але памятайце: сцерпіцца-злюбіцца – гэта не проста словы, а жыццёвая мудрасць.

**Рыбы**. Каб не паддацца меланхоліі, ешце цытрусавыя, гуляйце па сонейку – вітаміны С і Д неабходныя вам.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на Rh.by

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

### 21 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 | | +1 | | 0 | | –2 | |
| | +9 | | +7 | | +3 | | +4 | |
| | 745 | → 6 | 739 | ↗ 7 | 746 | ↙ 2 | 742 | → 7 |
| Вільня | 0 | | +3 | | –2 | | –1 | |
| | +9 | | +6 | | +2 | | +4 | |
| | 753 | → 6 | 747 | → 6 | 756 | ↓ 2 | 750 | → 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.08
Захад 19.24
Даўжыня дня 12.16

Усход 7.35
Захад 21.06
Квадра 1




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Нарач**

- Мінімальная тэмпература –12,4 °С у 2006 годзе
- Максімальная тэмпература +9,8 °С у 2007 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 14,2 мм у 2004 годзе

Назіранні за 37 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **У бліжэйшыя выхадныя ў Вязынцы збяруцца ахвотныя гукаць вясну. Карэспандэнты "РГ" будуць там і распавядуць тым, хто не даедзе, што цікавага прыдумалі арганізатары свята сёлета.**

НАВІНЫ

## Падчас выставы Сяргей Верамейчык раскажа, як рэканструяваць замкі

**СМАРГОНЬ. 20 сакавіка ў 16:00 у гісторыка-краязнаўчым музеі пройдзе выстава "Фарбы і гукі Залесся".**

На ёй краязнаўца, гісторык, мастак **Сяргей Верамейчык** прадставіць свае замалёўкі беларускіх замкаў, мясцінаў, якія ён наведаў. Раскажа, як можна рэканструяваць замкі.

Удзельнікаў мерапрыемства чакаюць песні і ігра на гітары Сяргея Верамейчыка.

Пра мерапрыемства расказала навуковая супрацоўніца гісторыка-краязнаўчага музея **Вольга Самаркіна**.

**Галіна СІНІЦА.**

## Бег: маладзечанцы ўзялі прызавыя месцы

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 сакавіка ў Гродне ў спартыўным комплексе "Нёман" у чацверты раз прайшлі традыцыйныя рэспубліканскія лёгкаатлетычныя спаборніцтвы "Гродзенская вясна".**

У іх удзельнічалі прафесіяналы і аматары бегу, у тым ліку з Маладзечна, Мядзела, Смаргоні. Былі госці з Польшчы.

У праграме – гадзінны і 12-хвілінны бег. Сярод мужчын 60-69 гадоў трэцяе месца заняў **Васіль Лябецкі**.

– Дзе я, 66-гадовы, паспею за гэтымі маладымі 60-гадовымі, – усміхаецца мужчына.

Сярод мужчын ад 70 гадоў і старэй першае месца заняў **Аляксандр Цімафеенка**. Сярод юнакоў да 18 гадоў другое месца ў **Аляксандра Мамайкі**. Сярод жанчын ва ўзросце ад 50 гадоў і старэй другое месца ў **Святланы Кошалевай**, трэцяе – у **Таццяны Івашанкі**.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 12 (1038) 20.03.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 367. Падпісана ў друк у 9.00 19.03.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.